

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(41) Май 1997 May Год выд. 5


Пасьля прачытаньня статуту будучага саюза Расеі і Беларусі ды іншых падобных пісаньняў становіцца ясным, што

## А. Лукашэнка ўжо ніякі прэзыдэнт, а звычайны трэйцярадны ельцынскі губернатар...

Для Лукашэнкі і яго маскоўскіх гаспадароў прэзыдэнцтва было толькі ступенькай на заплянаваным шляху да поўнага зьнішчэньня незалежнасьці, самабытнасьці і сувэрэнітэту дзяржавы і ператварэньня Беларусі ў губерню Расеі. Першым крокам да зьнішчэньня дзяржаўнасьці Беларусі была забарона гістарычна-нацыянальнае сымболікі — бел-чырвона-белага сьцяга і Пагоні, а далей перапісваньне Канстытуцыі па ўласнаму жаданьню, нахабная русыфікацыя і г. д. Ад самага пачатку Лукашэнка быў стаўленьнікам Масквы, ім ён застанецца і ў ролі часовага расейскага губернатара... Масква зьнішчэньне беларускае дзяржаўнасьці праводзіць ціха і далікатна пры помачы сваіх агентаў — Лукашэнкі і яго каманды...

(З надасланага матэрыялу)

## Жалобнае Спатканьне...

Шумнага сьвята падчас падпісаньня статута аб утварэньні саюза Расеі і Беларусі ў Маскве 2-га кастрычніка не атрымалася. Цырымонія прайшла стрымана. Разрэклямаваны саюзны дагавор у працэсе яго "шліфоўкі і даводкі" быў скарочаны з 17 старонак да 3-ох... Цяпер да 15 траўня народы Беларусі і Расеі з дапамогай журналістаў будуць глыбока вывучаць, шырока абмяркоўваць, дапаўняць і ўдакладняць падпісаныя дакументы. Чаму так сталася, чаму ўсё-ж ня быў падпісаны адзіны дагавор раз і назаўсёды? Гэта якраз тое, што дае беларускім незалежнікам надзею і адначасова нішчыць яе канчаткова. Відавочна, Расея вырашыла не афішаваць шырока факт свайго супрацоўніцтва з кіраўніцтвам Беларусі, стаўленьне да якога ў США і Заходняй Эўропе як да дыктатарскага, а правесьці далучэньне Беларусі ціха і нясьпешна.

(Паводле беларускай прэсы)



## НАМ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ...

У Менск прыбыла місія па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе. На працягу 4-х дзён яны вывучалі становішча з правамі чалавека ў краіне. Сябры місіі сустракаліся як з афіцыйнымі асобамі, так і з апазыцыйнымі лідэрамі — Шарэцкім, Багданкевічам, Карпенкам, Баршчэўскім і інш., а таксама з галоўнымі рэдактарамі незалежных СМІ. Нагадаем, што папярэдняя місія АБСЕ, якая наведала Беларусь з такой-жа мэтай, падрыхтавала спэцыяльны даклад, а наагул з Эўропы прыходзяць усё больш сумныя весткі, што міжнародныя арганізацыі альбо ігнаруюць Беларусь, альбо адмаўляюцца ад далейшага супрацоўніцтва. Місія запрапанавала беларускаму кіраўніцтву правесьці новыя парлямэнцкія выбары...

На паседжаньні Эўрапарлямэнту ў Страсбурзе была прынята спэцыяльная рэзалюцыя, дзе было заяўлена, што пагадненьне аб гандлю і дапамозе паміж Эўрасаюзам і Беларусьсю ня будзе адобрана да таго часу, пакуль беларускія ўлады ня зробяць канкрэтных крокаў у накірунку дэмакратычных, прававых і эканамічных рэформаў. Эўрапарлямэнт настойвае, каб расейскі і беларускі бакі адклалі ратыфікацыю саюзнай дамовы да ўсталяваньня ў абодвух краінах дэмакратычных інстытутаў. Найперш гаворка ідзе пра адсутнасьць у Беларусі легітымнага парлямэнту. Эўрапарлямэнт таксама даў зразумець, што ў выпадку калі Масква не прыслухаецца да гэтых рэкамэндацыяў, то могуць быць перагледжаны ўмовы супрацоўніцтва паміж Эўрасаюзам і Расеяй...

У Беларусі і Расеі працягваецца абмеркваньне праекту статута саюза дзьвюх дзяржаў. Нядаўна ў Менску былі створаны аргкамітэт грамадзкага "беларуска-расейскага" камітэту "Саюз", у які ўвайшлі лідэры шэрагу бальшавіцкіх таўкачоў і рускіх акупантаў. Што гэта за арганізацыя, гаварыць няма патрэбы...

Чарговы канфуз адбыўся ў Сэуле, Карэя, дзе з 10 да 14 красавіка праходзіла канфэрэнцыя Міжпарлямэнцкага саюзу, які аб'ядноўвае парлямэтарыяў з больш чым 100 краінаў сьвету. У сьнежні мінулага году ў Міністэрства замежных спраў Беларусі прыйшло запрашэньне беларускаму парлямэнту прыняць удзел у канфэрэнцыі і нястомны бальшавік Антановіч — міністр замежных спраў заявіў, што гэта зьяўляецца фактам прызнаньня сьветам прэзыдэнцкага парлямэнту. У Сэуль была накіравана намесьніца Старшыні Тамара Дутко. Аднак, дуткі, на месцы высьветлілася, што выканкам Міжпарлямэнцкага саюзу выкрэсьліў Беларусь са сваіх шэрагаў...

У канцы месяца мая прэзыдэнт Расеі Ельцын плянуе падпісаць ад імя сваё краіны дагавор з НАТА. Шматгадовая барацьба беларускага кіраўніцтва супраць пашырэньня НАТА на ўсход можа быць перакрэслена ў адно імгненьне. І зусім сьмешнымі выглядаюць зараз заявы беларускіх "палітыкаў" аб гатоўнасьці "да канструктыўнага дыялогу з НАТА"...

## На юбілей Плана Маршала Лукашэнку не запрашаюць

*У сталіцы Нідэрландаў Гаазе 28 траўня адбудзецца ўрачыстае сьвяткаванне 50-годдзя Плана Маршала. На юбілей запрошаны ўсе еўрапейскія лідэры — акрамя прэзідэнта Беларусі*

У 1947 г. дзяржсакратар ЗША Джордж Маршал прапанаваў свой план фінансавай дапамогі для Еўропы, якая адраджалася пасля Другой сусветнай вайны. У перыяд з 1948 па 1954 гг. Злучаныя Штаты выдзелілі 13 млрд. долараў 16-ці еўрапейскім краінам на пасляваеннае аднаўленне.

Сёлета 28 траўня ўся Еўропа адзначае 50-гадовы юбілей трансатлантычнага супрацоўніцтва. Урачыстасці адбудуцца ў Нідэрландах: гэтая краіна цяпер узначальвае Еўрапейскі Саюз. Яе Вялікасць Каралева Беатрыкс запрасіла на прыём прэзідэнтаў і кіраўнікоў урадаў краін-удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ). У сьвяткаванні возьме удзел і выступіць з прамовай прэзідэнт Злучаных Штатаў Ўільям Джэферсан Клінтан.

Беларусь таксама з'яўляецца членам АБСЕ. Аднак, як паведамілі нам у амбасадзе Нідэрландаў у Варшаве (гэтае пасольства выконвае функцыі дыпламатычнага прадстаўніцтва для Польшчы і Беларусі), *«у сувязі з недапушчальнай сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі прэзідэнт А.Лукашэнка не будзе запрошаны на сустрэчу ў Гаазе».*

**Магдалена НЕПАКАЙ**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# *OPERATION BELARUS*

"OPERATION BELARUS" a project to improve the oral health of the children of Belarus has entered the second half of a five-year program and Dr. Barys D. Ragula of London, Ontario, its chairman, has issued a report on accomplishments to date. "As we move into the next major phase of our work," writes Dr. Ragula, "we think it is time to report the accomplishments of the program to its supporters in Canada, the United States, England and Australia." Dr. Ragula explained, "we believe that continued strong backing is essential in order to maintain the momentum of our program to improve dentistry and oral health of children in Belarus."

"OPERATION BELARUS," which is based at the Faculty of Dentistry, the University of Western Ontario, has received about $40,000 from Belarusians who live in the countries mentioned. In addition, the Open Society Institute of the Soros Foundation has granted $80,00, the Belarusian Ministry of Health about $100,000, and the Professional Partnerships Program of the Association of Universities and Colleges of Canada about $22,000. Several Canadian dental supply companies have furnished high-speed drills and materials at reduced cost or no cost at all. Dr. Ragula pointed out that the funds contributed by the Diaspora have encouraged other contributors to lend their assistance. In carrying out a five-year plan to improve pediatric dentistry, developed by Dr. G.Z. Wright of the University of Western Ontario, "Operation Belarus" has been moving along twin-tracks. First, dental instructors from the University of Western Ontario have been training dental instructors from the Department of Pediatric Dentistry in Minsk both in Belarus and in London, Canada. So far, two teams have visited Minsk and four dental instructors have been trained at the University of Western Ontario. In the summer of 1997, there will be a second two-week seminar in Minsk for 12 dental instructors in methods and techniques of modern dentistry. Four dental instructors and one equipment specialist will travel to Minsk to conduct courses during the seminar. Western dental instructors have concluded that while maximum numbers of dentists can be trained on side by visits to Minsk, that at least of few dentists from Minsk must visit Canada in order to familiarize themselves with a modern dental school.

Besides training, "Operation Belarus" has modernized two clinics at the Department of Pediatric Dentistry in Minsk with six new dental stations each and has provided materials, drills, and books necessary to the practice of contemporary dentistry. "Only with new equipment and technology replacing the antiquated methods and equipment of the past will dental instructors be able to apply contemporary methods," said Dr. Wright, who will be making his fourth trip to Minsk in the summer of 1997 to work on the project. "Operation Belarus" is planning, as well, to replace the badly outdated sterilization and x-ray machines at the Department of Pediatric Dentistry in Minsk. Belarusian dentists are encountering for the first time in their careers dental practices that have been in general use in North America for several decades. They are learning how to administer anesthetics, how to treat patients in a more sympathetic way, how to use high-speed drills and rubber dams and other features of modern dentistry. They are also instructed in ways to treat the frequent mouth infections prevalent in Belarusian children and how to instruct children and parents in oral hygiene and other preventive measures.

Persons wishing to contribute to the work of "Operation Belarus" can do so by sending a cheque made out to "Operation Belarus" to Dr. Boris D. Ragula, 579 Willowdale Ave., London, Ontario, Canada. A receipt will be sent to all contributors and those from Canada and the United States can use their receipts as a deductible charitable contribution.

Charles Ruud
Chair of Public Relation

**Мы змагаемся
за
беларускую
БЕЛАРУСЬ!!!**



# Страх

*Народная Воля*

## Віктар СІМАНСКІ

У Еўропе не адшукаеш другі такі рэгіён, як Беларусь, насельніцтва якога пастаянна трэціруе чорнае пачуццё страху. І няпроста вызначыць тую краіну, кіраўнікі якой з падобнай адкрытай нянавісцю адносяцца да роднай мовы і культуры свайго народа. І вось гэты прыклад "вярхоў" дае адпаведныя вынікі.

Калі на аўтобусе мы з жонкай ехалі з Чыжоўскіх могілак, што ў Мінску, і спакойна размаўлялі на беларускай мове, раптам пачулі:

— Заткнитесь вы с этим грязным языком! Противно гадость слышать!

Такога дзікунства я не чакаў. На суседніх лаўках сядзелі двое 40-гадовых "мэнаў", а за імі, ззаду, іх равесніца з адной кампаніі. Усе апрануты багата, але і ўсе — пад добрай чаркай.

Адказаўшы, што гэта наша права, на якой мове размаўляць, мы пачулі ў свой адрас чысцейшае мацюгальства і пагрозы. У салоне стала ціха, як у чытальнай зале бібліятэкі, усе слухалі заліхвацкія прыдзіркі нахабнікаў. І ніхто нават словам не заступіўся, не дапамог паставіць на месца качэўнікаў з могілак.

На аўтобусным прыпынку ў Чыжоўцы яўны антыбеларус, як уджалены, ускочыў з сядзення і кінуўся да нас біцца. Двое сяброў-чарачнікаў стрымлівалі яго ярасць. Як на тое, дзяжурны міліцыянер як скрозь зямлю праваліўся, і мы бачылі, як тройка прахіндзеяў, азіраючыся на нас, пашыбавала ў бок гастранома.

Калі б падобны эксцэс адбыўся ў нейкай іншай краіне былога СССР, усё б адбылося па-іншаму. Дапусцім, такія авантурысты сустрэліся ў Азербайджане ці Арменіі, тады б пасажыры прыпынілі аўтобус на высокім узгорку і праз расчыненыя дзверцы тройню вымусілі б кульнуцца галавой уніз. І сачылі б, ці доўга тыя коцяцца. Каб з такімі нахабнікамі далей не ехаць і каб тыя на ўсё жыццё зведалі, што небяспечна паскудзіць мову цэлага народа.

У больш набліжаных да Еўропы краінах, Літве ці Эстоніі, такіх дзікуноў пакаралі б інакш: у аўтобусе ім проста скруцілі б рукі, і на прыпынку ўсе пасажыры гуртам адвялі б злачынцаў у паліцыю і запратакаліравалі грубейшае парушэнне артыкула Канстытуцыі, за што "свецяць" турэмныя краты.

У нас жа чорнае пачуццё страху засела ў падсвядомасці, і мы не можам абараніць сябе ў самых простых сітуацыях. Яго парадзілі раўнадушша і абыякавасць да многага. Захопніцкія войны і ўдушэнне свабод заклалі ў спадчынныя гены страх і стагоддзямі вынішчалі на гэтай зямлі ўсё жывое і разумнае.

"Вучыся перамагаць страх. Я ўсё жыццё гэтаму вучыўся", — даводзіць імператар Заходняй Рымскай імперыі Ромул Вялікі ў вядомай п'есе Ф.Дзюрэнмата.

Добра вучыцца перамагаць страх, калі ёсць хоць маленькае жаданне для гэтага. А калі жыве народ, які не чуў і не бачыў нічога лепшага, як знаходзіцца пад прымусам і ў пакорнай згодзе поўзаць перад некім на каленях, быць зацюканым і бяспраўным да апошняй ступені?.. Праедзьце па нашых раёнах, паназірайце за простым людам — і вы пераканаецеся, што беларус сёння ходзіць у шмотках-рванках і ботах-гумовіках — гэта яго багацце, простага люду, харчуецца хлебам ды салам, запіваючы гарбатай без цукру, — амаль як у пачатку стагоддзя... Калі глядзіш канадскі мастацкі фільм "Дочкі Калеба. Эмілі", то шчыра дзівішся: няўжо так жыла вёска ў пачатку нашага стагоддзя? Божа мілы, у нас жа і цяпер так не жывуць! Інтэлект нацыі затармазіўся недзе на ўзроўні 30—40-х гадоў.

Чорныя свечкі народ павінен ставіць сваім духоўным настаўнікам — пісьменнікам, дзеячам навукі і культуры. У часы "росквіту сацыялізму" многія з іх ва унісон Крамлю спявалі арыі пра адраджэнне нацыі, пераконвалі ўсіх, што народ сябе адчувае свабодным беларусам, а не голым зацюканым сынком "брацкай сям'і савецкіх народаў". Чаму тады некаторыя "мудрацы" са званнем "народны" не ўшчувалі, што наш народ так гаротліва жыве? Калі баяліся — адна справа, а калі не ведалі? Грош цана тады такім "мысліцелям", няхай бы ішлі на калгасныя двары і прадракалі лёс свінкам ды кароўкам — вось гэта ўжо было б сур'ёзна...

Страх з чалавека выганяе свабода, а яе, трэба прызнаць, параджае матэрыяльны дабрабыт. Пагадзіцеся, што свабоду мацуе дабрабыт, добрае жыллё і вольнае існаванне тваёй душы. Калі чалавек ведае, што яго заўсёды абароняць дзяржава і закон, за яго заступяцца брат і сват, тады ніводзін кіраўнік не зможа яго таптаць нагамі.

Вечны страх, які ўганялі нашаму чалавеку стагоддзямі, вечная збяднеласць парадзілі на нашай зямлі безаблічны гурт з самымі нізкімі інстынктамі, дзе чалавек адчувае сябе нікчэмнай ячэйкай стаднага грамадства.

Што дало закваску нерavailable страху на гэтай зямлі? Пастаянныя набегі на Вялікае Княства Літоўскае пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, цяжкія войны і дзікія рэпрэсіі. Возьмем толькі адзін прыклад. У час трынаццацігадовай вайны 1654—1667 гг. на Беларусі ў межах яе сучаснай тэрыторыі колькасць насельніцтва зменшылася больш чым напалову: з 2 млн. 900 тыс. да 1 млн. 350 тыс. (прыкладна на 47 працэнтаў). Гарадскога насельніцтва ўцалела толькі 45 працэнтаў. Такіх дэмаграфічных трагедый не ведаў ніводзін еўрапейскі народ. У шэрагу паветаў Беларусі гэтыя лічбы яшчэ большыя: у Полацкім — 75, Аршанскім — 69, Амсціслаўскім — 71 працэнт. Усе гарады краіны ляжалі ў попеле і руінах. Да 1700 года, калі тут пачалася новая вайна, колькасць насельніцтва дасягнула 2 млн. 247 тысяч, аднак чарговая вайна зноў зменшыла яго да лічбы 1 млн. 457 тысяч. Значыць, загінуў кожны трэці. Праз два стагоддзі дэмаграфічны патэнцыял нашай краіны мала адрозніваўся ад таго, якім ён быў у сярэдзіне XVII стагоддзя: у 1858 годзе на Беларусі жыло толькі 3 млн. 300 тысяч чалавек.

Я гэтыя лічбы прыводжу для таго, каб пераканаць чытача, што страх у галовах беларусаў з'явіўся не на пустым месцы: на нашу зямлю яго прынесла самае страшнае — смерць. Тая смерць, якую, "любя", нам падарылі бліжэйшыя "сябры і суседзі". І вось ужо стагоддзямі чалавек беларускай зямлі жыве пад прыгнётам страху. Таго страху, які не дазваляе яму выпраміцца і спакойна палюбавацца на сябе ў люстэрка, каб нарэшце блакіт вачэй адчуў промні цёплага і светлага сонца.

Голае ўбоства гудзіць на прасторах нашай краіны. Улады ў нас развівалі нізкія інстынкты ўсе апошнія стагоддзі і працягваюць развіваць цяпер. "Гэтаму народу (меўся на ўвазе агульны савецкі народ. — **Аўтар.**) для таго, каб рухаўся наперад, неабходныя жалезны кулак і плётка". Так сказаў некалі "вялікі" прадстаўнік "вялікага" расійскага народа І.Сталін. Той Сталін, партрэты якога сёння цягаюць у руках на мітынгах і дэманстрацыях і за здароўе якога галёкаюць на маніфестацыях.

Мне паказвалі дакументальныя кінакадры 30-х гадоў, дзе заўзята, як на прадпрыемствах, ішло народнае галасаванне за тое, каб у НКУС тэрмінова здаць "ворагаў" народа. Бачыў я самазадаволены прэзідыум на сцэне, крыклівых выступаючых і гэтую шматлюдную народную аўдыторыю. Страшна было глядзець на імітацыю дэмакратыі і духоўны канфармізм: у зале сядзелі з такімі ўзбуджанымі тварамі, радасна ўздымалі ўгору рукі — галасавалі "за". Народ любоўна глядзеў на прэзідыум і аднадушна крычаў "пакараць!", каб, не марудзячы, адправіць у ГУЛАГ "ворагаў народа".

Просты чалавек з былога СССР фактычна (а можа, гэта і было па плану?) люмпенізаваўся, і адшукаць цяпер нешта чалавечае і духоўнае ў ім вельмі няпроста. У мяне і зараз стаяць перад вачыма дакументальныя тэлекадры, паказаныя ў верасні па расійскім тэлебачанні. Факт такі, што ў Маскве адзін дзівак ці вар'ят вырашыў кінуцца ўніз з восьмага паверха. Некалькі гадзін мужчына прыкідваў, як такое крутнуць, міліцыя і пажарныя ўсё вырашалі, як яго выратаваць, а вось народ... Некаторыя збегалі да хаты, прынеслі кінакамеры і вар'яцелі пад вокнамі кватэры. Бо як расцаніць інакш тое, што просты люд сабраўся ўнізе натоўпам і многія крычалі, каб скакаў, нават... угаворвалі такое зрабіць. Хто гэта, вампіры ці прывіды? Не, гэта былі жывыя насельнікі жывой краіны, з якімі мы штодня сустракаемся на рабоце і ў магазіне, у кіно і бібліятэках. Дык у што ператварылі наш люмпен кіруючыя ўлады? Часам выдае, што нават злыя духі такое правярнуць з народам былі не ў сілах. Такія засельнікі краіны — рафінадныя эстэты, і жывуць яны пры дапамозе тактыкі непрыкрытай хлусні і, што не выключана, унушаюць грамадству адзіна прымальны сілавы варыянт існавання.

Згалелы народ жыве палітыкай татальнага калабарацыянізму, г.зн. супрацоўніцтва з любой уладай, галоўнае, каб яна кіравала. Прапагандысцкія інсінуацыі беларускага радыё і тэлебачання, СМІ дасягаюць сваёй мэты, у свядомасці простага люду ідзе трансфармацыя ўсіх паняццяў. У кастрычніку мінулага года я ездзіў у раён "Малінаўка-7", туды, дзе А.Лукашэнка прымаў жылы дом для творчай інтэлігенцыі сталіцы. Вялікі гурт народа стаяў каля вуліцы, на якой спыніліся шыкоўныя аўто беларускай эліты, і сачыў, куды і з кім ходзіць наш лідэр са Шклоўшчыны: далей прайсці не прапускала ахова і міліцыя. Відаць, баялася, каб нехта нешта не вытварыў. Нарэшце, Лукашэнка вынырнуў з дзвярэй новай паліклінікі, што за метраў сто ад натоўпу, і павярнуў да гармідару народа. Дзве пажылыя кабеты, відаць, сяброўкі, якія стаялі ў натоўпе, убачыўшы такое, з усіх сіл залемантавалі: "Гляньце, Лукашэнка!.. Ідзе сюды... А-я-яй!" І раптам яны... загаласілі, стадным зверам рванулі наперад, слёзы замілавання кроплямі дажджу пацяклі па тварах.

"Чаго яны галосяць?" — спытала мая дачка. "Радуюцца, што да іх крочыць Лукашэнка", — адказаў я. "Ён іх што, біць будзе?"

Я глядзеў на тэатральную мізансцэну і чакаў, што некаторыя грохнуцца на калені і пачнуць цалаваць кончыкі плашча прэзідэнта або ў непрытомнасці біць ілбом у асфальт, па якім ступае нага лідэра. Пранесла, маса ўтрымалася. Пакуль што...

Нават паняцці "любіць" або "паважаць" сёння набываюць у нас натуральна пачварныя формы. Перад кіраўніком высокага рангу чалавек траціць пачуццё ўласнай годнасці і хлёсткі маразм суправаджае ўсе яго дзеянні. Час парадзіў у беларуса глыбокія рысы нацыянальнага характару, і адныя з галоўных, пра якія некаторыя з уміленнем разважаюць, — гэта талерантнасць і спакой. Але асабіста мне прыкра пра гэтыя рысы і гаварыць, таму што іх заклала глыбока ў падсвядомасць чыстая баязлівасць. І вы ў гэтым не сум-

нявайцеся. Той страх, які заўсёды прыносіць зло, не можа быць чалавечным. Я вышэйзгаданыя рысы характару і ведаць не жадаю. Калі ідуць па вуліцы Мінска двое армянаў ці грузінаў, ці нейкія іншыя джыгіты і спакойна шпарацъ на сваёй роднай мове, іх ніхто не кране і пальцам. Калі на кірмашы размаўляюць на сваёй мове два літоўцы або эстонцы, да іх таксама ніхто не прывяжацца. Усе ведаюць, што з такімі людзьмі лепш не звязвацца, дадуць здачы, ды яшчэ як усыпяць! На нашага мілага і талерантнага беларуса ўсе хацелі пляваць, ведаючы, што спакой і хваравітая вытрымка дазволяць вырабіць з яго любога вахлака, і абараніць сябе духоўна і цялесна ні ён, ні яго супляменнік не адважацца.

Дык што з беларусамі будзе далей? 6 лютага 1989 года па трэцяй праграме ЦТ мне давялося глядзець дакументальны фільм "Каратаі". Забіў ён мяне, бо фактура ў ім страшная! Каратаі — народ, які жыве ў Мардовіі, адметны ён тым, што звычаі яго і абрады — мардоўскія, а вось мова — татарская. Каму яны, каратаі, сёння патрэбны? Мардовіі? Татарам? Рускім? Нікому, бо растварыліся на зямлі і цяпер іх праблемы нікога не хвалююць, яны адны, пакінутыя і зацюканыя. Народ рэліктавы, як той выкапень!

У фільме прагучала інфармацыя: раней іх лічылі тысячамі, а цяпер наўрад ці паўтары сотні (!) набярэцца. Раствораныя людзі, якія ні ў кога не выклікаюць інтарэсу. "Да, из песни слова не выкинешь, не отберешь у народа память", — сказаў дыктар. Але, я разумею: калі народ раствараецца, значыць, ён ужо без памяці, жыве без продкаў і... без сябе. Мардоўскія каратаі — самы горкі ўрок нам, беларусам. Прыйдзе дзень, калі народ, канчаткова асіміляваны чужымі элементамі, страціць сябе, як страчвае сябе чысцюткая рэчка, што трапіла ў сцёк бурнага рэчышча. І будуць нікчэмна тулацца па свеце некалькі сот адпетых беларусаў.

І сёння пастаянна разумееш, што сапраўдныя беларусы, даўнія насельнікі нашага рэгіёна, становяцца сапраўднымі качэўнікамі з магілак. Адзінай застаецца радасць для беларуса: пасля смерці закапаюць цябе ў тваёй беднай роднай зямельцы. Тваю плоць, пакуль што, адсюль нікуды не вывозяць...

# ...А яна, гэтая астатняя Беларусь, чуе і бачыць з экранаў тэлевізараў зусім іншае

Вядома, у Мінску адбываецца нямала значных падзей. Але, на жаль, большасць з іх не выходзіць за межы сталіцы, як не выходзіць гук з сурдакамеры. Кіраўнікі створанага блока дэмакратычных партый добра чуюць адзін аднаго і дзесяць-пятнаццаць тысяч адных і тых жа ўдзельнікаў мітынгаў. Гэта ў замкнутай прасторы стварае ўражанне масавай падтрымкі. І выпадае з поля зроку ўся астатняя Беларусь з мільёнамі выбаршчыкаў.

А яна, гэтая астатняя Беларусь, чуе і бачыць з экранаў сваіх тэлевізараў зусім іншае. Прэзідэнцкая вертыкаль трымае ў сваіх руках усё: грошы, тэлебачанне, радыё, газеты, міліцыю, АМАП і магчымасць, сабраўшы разам рафінаваных чыноўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, не хаваючыся, адкрытым тэкстам сказаць, што "калі вынікі рэферэндуму будуць не на карысць прэзідэнту, то ніхто не застанецца на сваёй пасадзе".

Далёка не кожны чыноўнік згодзен з тым, што ад яго патрабуюць. Але ў кожнага ёсць сям'я, і "засвяціцца" ў сваёй нелаяльнасці да прэзідэнта — гэта азначае пазбавіцца кавалка хлеба. Хто на гэта пойдзе? І гэтыя людзі, у душы не прымаючы і разумеючы заганнасць і бесперспектыўнасць палітыкі прэзідэнта, на практыцы робяцца актыўнымі саўдзельнікамі гэтай палітыкі.

Сёння, спрабуючы разабрацца ў тым, што адбываецца, шукаючы прычыны і, як заўсёды, вінаватых у сакрушальным паражэнні нацыянал-дэмакратаў, на першае месца можна паставіць адсутнасць яўнага лідэра і бязмежнае махлярства з боку прэзідэнцкай вертыкалі.

Не аспрэчваючы гэтага, я хацеў бы назваць яшчэ дзве, на маю думку, вельмі важныя прычыны. Адна з іх — адсутнасць у нацыянальна-дэмакратычным руху функцыянераў-прафесіяналаў, якія б мелі гарантаваную матэрыяльную падтрымку ў выпадку звальнення іх з працы. Другая — адсутнасць нацыянальнай ідэі ў асяроддзі асноўнай масы сельскіх выбаршчыкаў.

Што гэта так, за прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Дастаткова ўспомніць пра падзеі пачатку дзевяностых гадоў у краінах Балтыі. Чаму гэтыя маленькія рэспублікі з насельніцтвам у кожнай, як у Магілёўскай ці Мінскай абласцях, выстаялі супраць галаварэзаў-амапаўцаў з Масквы, супраць танкаў? Толькі таму, што ў іх галоўнымі каштоўнасцямі былі пачуццё сваёй нацыянальнай годнасці, шанаванне сваёй мовы, сваёй культуры, сваёй гістарычнай спадчыны. Пераважная большасць насельніцтва ўзнялася на абарону гэтых каштоўнасцей, адкінуўшы палітычныя спрэчкі. Нават камуністы былі разам з усімі ў пытаннях абароны дзяржаўнасці. І яны перамаглі.

Адсутнасць шырокага разумення сярод беларусаў менавіта гэтых каштоўнасцей і з'явілася, на маю думку, галоўнай прычынай жахлівых вынікаў абодвух рэферэндумаў. Калі б гэтае разуменне было — ніякае махлярства, ніякі гвалт з боку прэзідэнцкай вертыкалі не дапамаглі б ёй перамагчы.

Сёння яшчэ шмат людзей памятаюць, што нейкіх дзесяць гадоў таму ў крамах быў танны цукар, танная каўбаса, кірзавыя боты за 10 рублёў 50 капеек, ватоўка за 12 рублёў, і колькі хочаш даволі таннай гарэлкі і "чарнілаў". І вось толькі ніяк не могуць успомніць, што атрымлівалі калгаснік за сваю працу? Не могуць успомніць, што калгасная пенсія была толькі на 50 капеек большая, чым каштавала тая ж ватоўка, а працоўны калгасны стаж не ўлічваўся, калі чалавек выходзіў на пенсію з дзяржаўнага прадпрыемства ці ўстановы. І зусім ужо не памятаюць, калі калгаснікі атрымалі пашпарты. Чамусьці не памятаюць, хто і па чым указанні фізічна вынішчаў працавітага селяніна-хлебароба.

Дзіўная рэч — чалавечая памяць. І нічога з гэтым пакуль што не зробіш. Так яны разумеюць добрае жыццё і таму галасуюць за ўчарашні дзень, спадзеючыся, што гэтым вернуць танную гарэлку, кірзавыя боты і ватоўкі, а большага ім і не патрэбна, бо лепшага яны і не бачылі.

Шкада мне гэтых працавітых і непатрабавальных людзей, якія нічога светлага ў сваім працоўным жыцці не бачылі. Нябаракі, яны адмовіліся ад сваёй роднай мовы, не ведаючы пры гэтым добра іншую, якую ім гвалтоўна навязалі "інтэрнацыяналісты", абапіраючыся на прыкормленую зграю манкуртаў ад літаратуры, якіх заўсёды ў дастатковай колькасці пастаўляла трымаючым уладу інертная інтэлігенцыя. І нічога дзіўнага не будзе, калі на наступным рэферэндуме яны адмовяцца ад сваёй дзяржаўнасці і моўчкі пойдуць пад скрыдзёлка расійскіх вялікадзяржаўных шавіністаў.

Прапрацаваўшы амаль чатыры гады старшынёй Слаўгарадскага гарадскога Савета дэпутатаў, я так і не атрымаў падтрымкі ад настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры (!!) у сваіх намаганнях стварыць раённае ці хаця б гарадское таварыства беларускай мовы. Ніводзін з беларускамоўных настаўнікаў у раёне нават не адгукнуўся на мой артыкул у газеце з гэтым заклікам да іх! Затое як хуценька на наступны дзень пасля нашай нацыянальнай ганьбы — прыняцця двухмоўя Вярхоўным Саветам — тыя, хто нябляга валодаў беларускай мовай і карыстаўся ёй, прынамсі, калі прыходзіў да мяне ў гарадскі Савет, адразу перайшлі на "великий и могучий"...

Аб якім нацыянальным сумленні можна весці гаворку, калі настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, як толькі празвінеў званок аб заканчэнні ўрока, выходзячы з класаў, на вачах у сваіх вучняў пераходзяць на мову "старэйшага брата"?

Калі не будзе павагі да сваёй нацыянальнай годнасці, да гістарычнай спадчыны ў тых, хто павінен несці людзям каштоўнасці нацыянальнай ідэі, хутчэй за ўсё мы зробімся сведкамі, як уся беларускасць будзе загнаная ў рэзервацыі фальклорна-этнаграфічных гурткоў з шырокім паказам па тэлебачанні, каб усе бачылі, што ў нас не існуе ніякага ўціску на беларускую мову і культуру. Толькі ў гэты самы час у кнігарнях вы не знойдзеце прыгожа афармленых цікавых дзіцячых кніжак на беларускай мове. А ўся выхаваўчая работа ў дзіцячых садках і школах будзе канчаткова пераведзена на рускую мову.

І не трэба цешыць сябе надзеяй, што прэзідэнт, атрымаўшы неабмежаваную ўладу, нешта карыснага зробіць для нацыянальнага адраджэння. У яго, як мне здаецца, іншы погляд на шлях, якім павінна ісці Беларусь. Не выпадкова ж зноў з'явіліся на вышэйшых пасадах палітычныя трупы — адыёзныя дзеячы былой таталітарнай сістэмы.

Сёння ў прэзідэнта з'явіўся новы магутны паплечнік у абліччы мітрапаліта Філарэта. Уся гісторыя Рускай праваслаўнай царквы — гэта русіфікацыя народаў, да якіх дабралася РПЦ, поўная падтрымка вялікадзяржаўных памкненняў Расіі.

І сёння гэты злавесны альянс пад словаблуддзем аб адзінакроўстве двух славянскіх народаў ліхаманкава робіць антыбеларускую справу.

І гэтая работа вядзецца па ўсіх накірунках. Сёння ў аднаўлёных школьных піянерскіх дружынах важатыя пачалі выхоўваць новых паўлікаў марозавых.

Усё гэта, разам узятае, не выклікае сумнення, што для будучыні нашай краіны, для яе незалежнасці і нацыянальнай годнасці набліжаецца смяротная небяспека.

Кожны дзень, стоячы ў чарзе, я чую, як людзі з жахам выказваюцца аб тым, што іх чакае заўтра, бо ўжо сёння далёка не ўсе могуць сабе дазволіць нешта купіць акрамя хлеба, малака і ліверной каўбасы і клянуць ва ўсіх бедах мясцовае кіраўніцтва. І зноў, уздыхаючы, кажуць, што каб не перашкаджалі прэзідэнту, дык ён бы выканаў усё, што абяцаў...

Небаракі, калі ж яны пазбавяцца ад ілюзій? Вось гэта і ёсць тая рэальнасць, якая і прывяла нацыянал-дэмакратаў да сакрушальнага паражэння.

Таму хацелася б спадзявацца, што лідэрам усіх дэмакратычных партый, і ў першую чаргу БНФ, хопіць мужнасці і развагі, каб зрабіць правільныя высновы з праліках, якія прывялі людзей да галечы, і пазбавіцца ад мітынговых ілюзій.

І апошняе. Калі на палітычнай арэне гэтай вясной не з'явіцца лідэр, які зможа знайсці падыход да сэрца тых, хто сёння ўсё яшчэ ледзь не моліцца на "бацьку", Беларусь як незалежная дзяржава будзе зліквідавана. І тады ўсё трэба будзе пачынаць спачатку, але ўжо не нам і не нашым дзецям гэтага не ўбачыць...

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны,**
г. Слаўгарад. "Народная Воля"

# Чым жа будзем лячыць чарнобыльскіх дзяцей?

Днямі з Аўстрыі прыехалі ў адну мінскую арганізацыю актывісты дабрачыннай суполкі па аказанню дапамогі чарнобыльцам. З сабой прывезлі не адну тону лекаў, прадуктаў, вопраткі. Яны хацелі ўручыць каштоўныя падарункі беларускім сем'ям, фондам, пра якія ведаюць. Але мытнікі загадалі ўсё гэта завесці на склад, апячаталі і папярэдзілі: "Не чапаць да нашага ўказання". "Хіба ж так можна? — абурыліся аўстрыйскія госці. — Мы ж прывезлі гэтыя рэчы канкрэтным людзям, сваім сябрам, якія маюць вострую патрэбу ў іх, і хочам асабіста ім уручыць. Мы не жадаем, каб гэта рабілі чыноўнікі, якія, як здарацца, аддаюць лекі зусім не тым, хто мае ў іх патрэбу".

Але мытнікі і слухаць не захацелі. Не дапамаглі і просьбы спецыялістаў беларускай арганізацыі. Госці адправіліся дамоў са словамі: "Мы больш сюды не паедзем".

У другой мінскай арганізацыі мне паведамілі пра такі факт. Везлі ім з Германіі для чарнобыльскіх дзяцей 40 тон прадуктаў і лекаў, ды, сустрэўшыся з бюракратызмам на брэсцкай мытні, вярнуліся ў Польшчу, а адтуль паехалі на Украіну. Там ахвотна прынялі каштоўны груз. Нямецкая арганізацыя "Саюз рабочых самарыцян" паведаміла беларускаму партнёру, каб больш іх не чакалі. Яны будуць дастаўляць лекі і прадукты Украіне.

І яшчэ адзін свежы факт. Мінская арганізацыя атрымала з Германіі камп'ютэры, якія павінна перадаць у школы, фонды, бальніцы як падарункі. Але мытнікі налічылі такія сумы падатку, што мінскаму партнёру ён аказаўся не па кішэні, і ён вымушаны прасіць сяброў з Германіі забраць свой падарунак назад. Зразумела, што пасля "такога прыёму" немцы болей не стануць пасылаць сюды гуманітарную дапамогу.

Падобных фактаў не мала. Усё ідзе да таго, што хутка да нас ніхто не павязе лекаў. Чым жа мы будзем лячыць чарнобыльскіх дзяцей і хворых пенсіянераў? Вось да чаго прыводзіць націск улад на дабрачынныя фонды і арганізацыі краіны. Чытач, напэўна, прыкмеціў, што мы не называем беларускія арганізацыі, якія расказалі нам пра вышэй прыведзеныя прыклады. Так нас прасілі нашы суразмоўцы. Бо за падобныя паведамленні прэсе яны могуць падвергнуцца рэпрэсіям з боку ўлад.

**Сямен КУПЧЫН.**

## ПРОСЬБА

Айцец Канстанцін Бандарук, які апошнімі гадамі працуе ў Беларускай рэдакцыі радыё "Свабода" (дзе сярод іншых тэмаў вядзе сэрыю рэлігійных гутарак) рыхтуе да выданьня кніжку сваіх пропаведзяў. На выданьне кніжкі патрабуецца ад 2500 да 3000 даль. Калі ён будзе выдаваць сам, гэта можа заняць шмат часу дзеля нястачы сродкаў. Каб прысьпешыць ажыцьцяўленьне гэтага добрага праекту, абвяшчаецца збор грашовых ахвяраваньняў. Айцец Канстанцін — выдатны прапаведнік. Гэта пацьвердзіць кожны, хто чуў ягоныя казаньні. Кніжка а. Бандарука будзе служыць ня толькі крыніцай духовага задавальненьня кожнаму чытачу, але прыдасца і шмат каму з беларускіх сьвятароў як на эміграцыі, гэтак і ў Беларусі — у Беларусі асабліва, бо там беларускае слова, якім так добра валодае а. Канстанцін, рэдка дзе ўжываецца ў навучаньні праўды Божае. Апрача ўсяго сказанага, удзел беларускага грамадзтва ў выданьні такой кнігі пропаведзяў будзе а. Канстанціну маральным падтрыманьнем у працы над ёй і сваіго роду супольнай падзякай за самаахвярнае служэньне Беларускаму Праваслаўю.

Чэкі выпісвайце на N. Zaprudnik і прысылайце сваю пасільную ахвяру на адрас:

N. Zaprudnik
42 Deerfield Road
Somerset, NJ 08873

## АПОШНІЯ НАВІНЫ

18-га красавіка правёў сваё першае паседжаньне аргкамітэт па правядзеньню Другога зьезду беларусаў сьвету, які адбудзецца 26-27-га ліпеня 1997 г. у Менску. Ганаровы старшыня арганізацыйнага камітэту — Васіль Быкаў, сустаршыні Радзім Гарэцкі і Пётра Краўчанка. Зацьверджана асноўная тэма зьезду: "Захаваньне беларускай прысутнасьці ў сьвеце". У арганізацыйны камітэт увайшлі ўсе сябры Управы ЗБС "Бацькаўшчына", а таксама вядомыя людзі, як Ніл Гілевіч, Янка Брыль, В. Іпатава, Г. Бураўкін, А. Мальдзіс і інш Бяручы пад увагу дыктатарскі рэжым на Беларусі, з далёкага Замежжа на гэты зьезд, відаць, ніхто не паедзе...

Спынена 'гуманітарная' дзейнасьць... Арганізацыя CityHope у супрацоўніцтве з беларускім партнёрам Nadezhda-Express спыніла ў Беларусі сваю дзейнасьць ад 5 красавіка 1997 г. Як нам паведамляюць, беларускія бюракраты пачалі абкладаць падаткамі некаторую дзейнасьць гуманітарнае дапамогі і такім чынам забралі з банковага конта Nadezhda-Express $349,000 (трыста сорак дзевяць тысяч) даляраў. Нам вядома, што арганізацыя CityHope на чале з Пол Морам, відавочна, маючы мільённыя капіталы, зьбірала сярод беларускіх асяродкаў Замежжа яшчэ дадатковыя сумы ахвяраў...

Польска-беларускія размовы... Пасьля заканчэньня ў Менску трохдзённых кансультацыяў, дэлегацыі зрабілі агляд супрацоўніцтва ў гаспадарчай, навуковай і культурнай дзялянках. Польская дэлегацыя зьвярнулася да прадстаўнікоў беларускага міністэрства замежных спраў, каб тыя дапамаглі тэхнічна і фінансова польскім грамадзкім арганізацыям у Беларусі. Беларускі бок паабяцаў гэтую справу "ўважна разважыць". Дамоўлена, што ў травені месяцы падчас Дзён Беларускае Культуры ў Польшчы будзе падпісана паразуменьне аб адкрыцьці ў Менску польскага Інстытуту Культуры. У сваю чаргу ў Варшаве альбо Беластоку паўстане Інстытут Беларускі...

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!

## Człowiek radziecki

**Towarzysze z moskiewskiego Biura Politycznego naprawdę wierzyli za czasów Breżniewa, że istnieje ktoś taki jak człowiek radziecki. Wierzył w to także Michaił Gorbaczow, który po rozpadzie Związku Radzieckiego rozbrajająco przyznał, że był przekonany, iż problemy narodowościowe zostały w ZSRR już dawno uregulowane i żyją w nim ludzie radzieccy.**

Po roku 1990 można było powiedzieć, że życie brutalnie zaprzeczyło tej wierze. Ale dziś Gorbaczow może mieć odrobinę satysfakcji: prawdziwym człowiekiem radzieckim okazał się Białorusin, Aleksander Łukaszenka (czy raczej w wersji rosyjskiej Łukaszenko). Gdy Rada Najwyższa Białorusi głosowała za rozwiązaniem ZSRR, jeden jedyny Łukaszenka, jak Rejtan, był przeciw. Promieniował szczęściem, gdy prezydent Rosji Borys Jelcyn przyłożył w końcu rękę na jego dzieła likwidacji niepodległości Białorusi. Gorbaczow może mieć więcej satysfakcji – Łukaszenka nie jest jedynym człowiekiem radzieckim na Białorusi. Prawdą jest bowiem, że większość mieszkańców tej republiki popiera jego zapędy. Nie wiadomo natomiast, na ile szczere jest dążenie Jelcyna do połknięcia Białorusi. Zachód wiadomości napływające z Moskwy przyjął z dziwnym spokojem. Nie ulega tylko wątpliwości, że Jelcyn skorzystał z okazji, by w samej Rosji zyskać, łaskawsze spojrzenie tamtejszych ludzi radzieckich. Unią z Białorusią wykupił się poniekąd z hańby przyzwolenia na poszerzenie NATO, wyrażonej w czasie szczytu z prezydentem USA Billem Clintonem w Helsinkach.

Roman Strzemięcki




Prezydenci Jelcyn i Łukaszenka podpisali porozumienie o połączeniu Rosji i Białorusi. Oba państwa zachowują wprawdzie suwerenność, ale będzie to dla Białorusi suwerenność formalna.

*Рыгор БАРАДУЛІН:* "Народная Воля"

# "Паэзія будзе жыць, пакуль на свеце застанецца хоць адна жанчына"

*Прозвішча народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ў спісах "дрэйфуючых" дзеячаў культуры, якія спадзяюцца ў сваёй дзейнасці на панскую ласку, не значыцца. А таму мая размова з ім пачалася з такога пытання:*

**— Рыгор Іванавіч, Вы, як мне здаецца, аказаліся па-за ўвагай улад. Можа, вы пачалі пісаць вершы "новым беларусам" ці заможным палітычным дзеячам пад заказ?**

— З падобнымі вершамі я, канешне, магу дапамагчы, але сумняваюся, што заказчыкі будуць задаволены.

Не так даўно адзін наіўны, але пры пасадзе чалавек папрасіў мяне пракаменціраваць БССРаўскі гімн. Маўляў, як можна адазвацца на радкі: "Мы, беларусы, з братняю Руссю, разам шукаем к шчасцю дарог"? Самы халуйскі гімн! У мяне заўсёды ўзнікала пытанне: а што, мы асобна не можам адшукваць свае шчаслівыя шляхі? Я таму чалавеку адказаў: "Ну, як я буду сыраваць даўно згніўшую анучу? Ёсць у нас, у Саюзе пісьменнікаў, людзі, якія гэтым прабаўляюцца. Так званыя кадры на падхваце. Звяртайцеся да іх. Не здолееце самі адшукаць — у прэзідэнцкай Адміністрацыі вам з задавальненнем параяць патрэбную асобу, якая палічыць за гонар выканаць любы заказ".

Калі ў нашым грамадстве ўжо з'явіліся песні пра прэзідэнта, то тут застаецца толькі адно — у адчаі развесці рукамі і зрабіць выснову, што да раней існаваўшага паняцця "асоба каўказскай нацыянальнасці" цяпер дадалося яшчэ адно — "асоба нявызначанай нацыянальнасці". Гэта я накont Ханка, Яроменкі, Спрынчана і ім падобных.

**— Нявызначаная нацыянальнасць нараджае нявызначанае мастацтва. У тым ліку і літаратуру. На вашу думку, беларуская літаратура дажывае свае апошнія дні?**

— Калі мець на ўвазе беларускую савецкую літаратуру, то яна не памерла, а памірае. На жаль, памірае марудна. А нацыянальная беларуская літаратура жыве. І, упэўнены, будзе жыць. Па выпеставанай стагоддзямі традыцыі, ёй наканавана развівацца ў самых неспрыяльных умовах. Аб гэтым сведчыць прыклад апостала нашай літаратуры Васіля Быкава, які знаходзіць сябе і пры сённяшнім рэжыме.

Беларуская літаратура асуджана на выжыванне яшчэ і таму, што моладзь сёння арыентуецца ўсё ж такі не на савецкія каштоўнасці і каноны. І цяпер менавіта ад яе залежаць далейшыя шляхі развіцця беларускай нацыянальнай літаратуры. Маладыя не павінны памыліцца. Іх найбольш таленавітых прадстаўнікоў будуць чытаць. І заўтра, і паслязаўтра. І разумець многія рэчы. І вучыць гэтаму сваіх дзяцей. У любым выпадку, з сапраўднай сучаснай літаратурай не атрымаецца, як з адным нашым вядомым празаікам, тыраж поўнага збора твораў якога рэальна цягнуў 7—8 тысяч экземпляраў, а ЦК даў загад, каб наклад склаў не менш 35 тысяч. Потым, пасля бездакорнага выканання дадзенага ўказання, ва ўсіх кнігагандлёвых крамах прадаўцы плакаліся: "Забярыце назад гэтыя 6 тамоў! Яны ў нас мёртвым грузам ляжаць".

**— Чаму ж тады і цяпер маўчыць наша крытыка, якая такім чынам прымае непасрэдны ўдзел у паспяховым пахаванні нашай літаратуры?**

— Згодзен. Атрымалася метамарфоза з часам. Сённяшнія крытыкі, што маюць так званыя савецкія лякалы, апрабараваныя на творах Шамякіна, Савіцкага і іншых, прыкладаюць іх да сучасных. Свежае пакаленне крытыкаў у нас яшчэ толькі расце. І новая крытыка, трэба адзначыць, будзе даволі цікавай і зубастай. У якасці вернай прыкметы магу прывесці наступны прыклад: маладыя крытыкі часам замест таго, каб аналізаваць твор сучасны, пачынаюць кусаць за пяткі напісанае не адзін год назад. Але трэба мець смеласць, каб цягаць за хвост ільва, які спіць.

**— Па вашых назіраннях, становішча з нацыянальнай культурай у нашых суседзяў з краін СНД таксама выклікае слёзы?**

— Наколькі я ведаю, становішча там вельмі блізкае да нашага. Аднак, скажам, літоўская паэзія ва ўсе часы адрознівалася сваімі вялікімі тыражамі. Проста існавала неафіцыйная змова культурнай эліты: любая кніжка, што выходзіла на літоўскай мове, павінна была купляцца. Каб не ляжала макулатурай на кніжных паліцах. Альбо ў Сярэдняй Азіі і Казахстане — адзін з мясцовых часопісаў меў тыраж прыкладна 200 тысяч экземпляраў. Усё гэта падносілася як росквіт нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюза. Хаця на самой справе ўсё было куды хітрэй: старшыня абкама тэлефанаваў старшыням калгасаў. Тыя закупалі прыкладна 100 тысяч экземпляраў кніг, і яны ляжалі нават не распакаваныя ў калгасных канторах. З распаўсюджваннем астатніх тысяч тыражу, як разумееце, асаблівых праблем таксама не існавала — абкаму падпарадкоўваліся яшчэ буйныя заводы, прадпрыемствы быту...

У нас застаўся стэрэатып савецкага літаратара. У Саюзе пісьменнікаў, калі шчыра казаць, адзін аднаго нават не ведаюць. Я толькі з трэцяй часткай Саюза асабіста знаёмы. Бо як толькі адкрываеш наш даведнік, адразу разумееш, што Саюз перастварэецца ў арганізацыю тыпу "Маладняка", існаваўшага пасля семнаццатага года на рэвалюцыйнарамантычна-нігілістычным узdroўні.

**— Рыгор Іванавіч, сёння многія дзеячы культуры застаюцца на плыву ў асноўным дзякуючы таму, што дэманструюць сваю падкрэсленую лаяльнасць да цяперашняга рэвалюцыйна-прагматычна-аднаасабовага ўздыму. А ў вас ніколі не ўзнікала думкі такім чынам прыстроіцца да агульнай чаргі за ільготамі, званнямі і ўзнагародамі?**

— Бог мілаваў. Я і ў партыі не знаходзіўся, і пісем у падтрымку ці ў абарону ўлады не падпісваў. Праўда, за ўсё жыццё адно пісьмо ўсё ж падпісаў. Гэта яшчэ пры Гарбачове было: у абарону беларускай мовы.

Існуючы рэжым не вечны. Ён рана ці позна скончыцца. І мне было б цікава паназіраць, як гэтыя падпісанты і падлізалы будуць глядзець у вочы сваім сучаснікам. Або проста на сябе ў люстэрка.

Жахліва было, калі нашыя праслаўленыя і заслужаныя дзеячы культуры падпісвалі пісьмо ў падтрымку прэзідэнта. Цырк дый годзе!

Гэты рэжым не ўратуюць ніякія пісьмы. І мне, калі б я падпісваў падобныя дакументы, потым, мабыць, і паміраць было б цяжка і сорамна.

**— Рыгор Іванавіч, можа, Вы саромеецеся ўдзельнічаць і ў сучаснай свецкай тусоўцы? Вас, увогуле, запрашаюць на ўсялякія ўрачыстасці, мерапрыемствы?**

— Мяне асабліва не клічуць, а калі і запрашаюць, то я стараюся адсядзецца дома. А не хажу таму, што не жадаю бачыць тых, каго сто год ні бачыць, ні чуць не хацеў бы!

**— Што Вы як член Саюза пісьменнікаў думаеце пра справу Славаміра Адамовіча?**

— Як чалавека і як паэта мне яго шкада. Гэта справа, канешне, складаная, аднак самае небяспечнае ў ёй — спроба рэанімаваць 1937 год. У ягоным вершы "Забі прэзідэнта" не прапанавана канкрэтна забіць Аляксандра Рыгоравіча. Адкрыйце любы даведнік — у нас прэзідэнтаў не пералічыць. Раней устойлівым выразам было "загінуў кожны чацвёрты", а цяпер — "кожны трэці — прэзідэнт".

**— Увогуле, цяжка сёння трымаць у сабе паэта?**

— Паэту-недачасніку, заўсёды цяжка.

**— Напэўна, вам дапамагае заставацца самім сабой перыядычны друк. Што Вы чытаеце рэгулярна?**

— "Свабоду". Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі нават у рукі не бяру.

**— А тэлебачанне?**

— Мяне трасе ад нашага прадажнага тэлебачання. Я не магу яго ўспрымаць. Гэта антыбеларускасць. А ад Зімоўскага ў мяне ціск падымаецца. Беларускія тэлевізіёншчыкі хлусяць і вераць у тое, пра што хлусяць. Чаму наш прэзідэнт такі магутны? Таму што ён хлусіць і верыць у гэта. А гэта перадаецца ўсім яго памагатым у "вертыкальнай" прапорцыі.

**— Не сакрэт: у канцы дваццатага стагоддзя паэзія саступіла са сваіх пазіцый. Вершы чытаюць усё радзей і радзей. Ці пяройдзе гэты, здаецца, незваротны працэс у XXI стагоддзе?**

— Складанае пытанне... Думаю, пакуль будзе жыць чалавецтва, пакуль на свеце застанецца хоць адна жанчына, будуць і вершы, будзе і паэзія. Іншая справа — у якой форме. Аднак і зараз многа вершаў, асабліва савецкіх, можна назваць электроннымі ці канвертыруемымі. Гэтыя ў наступнае стагоддзе не пяройдуць ні пад якой шыльдай.

**— Ці шмат вершаў Вы прысвяцілі жанчынам?**

— Стараўся дагадзіць усім знаёмым дзяўчынам. Толькі не афішаваў гэта.

**— Ведаю: Вашыя родныя маюць самае непасрэднае дачыненне да паэзіі...**

— Так. Геніяльным паэтам і філолагам была мая мама. Хоць фармальна яна была мала адукаваная. У мяне ўсе творчыя здольнасці ад маці. Нездарма ж беларускую мову называюць матчынай мовай. Жыва яшчэ мая цётка — Марыя Рыгораўна Трафімава. Унікальнейшы чалавек. Вельмі здорава разважае пра палітыку. Гаворыць, што Ленін, відаць, быў вялікі грэшнік, калі яго нават зямля не бярэ. Ну і ўнучка мая, Дамінічка, любіць рыфмаваць. Аднак, на жаль, філалагічныя ці нават паэтычныя здольнасці — гэта не тое, што патрабуецца ў наш век...

**— Рыгор Іванавіч, 70-я гады прынята называць часам фізікаў, 80-я — лірыкаў, да якой катэгорыі можна аднесці 90-я?**

— Харызматыкаў. Гэта, як у адной з маіх "Дурнот": адзін усім стаўляе клізму, і гэта лічаць за харызму.

**Марынай КОКТЫШ**



мойму, вёў вельмі правільную лінію: няхай лішняя галава зляціць, але не будзе хістанняў у час вайны і пасля вайны".

Гэты матыў знішчэння "пятай калоны", абгрунтаванне рэпрэсій спасылкамі на наяўнасць затоеных ворагаў актыўна ўкараняўся ў грамадскую свядомасць і ў 30-я гады. "Для таго, каб напаскудзіць і нашкодзіць, — гаварыў Сталін на лютаўска-сакавіцкім пленуме, — для гэтага зусім не патрабуецца вялікая колькасць людзей. Каб пабудаваць Днепрабуд, трэба пусціць у ход дзесяткі тысяч рабочых. А каб яго ўзарваць, для гэтага патрэбна, магчыма, некалькі дзесяткаў чалавек, не больш. Каб выйграць бітву ў час вайны, для гэтага можа запатрабавацца некалькі карпусоў чырвонаармейцаў. А для таго, каб правáліць гэты выйгрыш на фронце, для гэтага дастаткова некалькі чалавек шпіёнаў дзе-небудзь у штабе арміі або нават у штабе дывізіі, здольных выкрасці аператыўны план і перадаць яго ворагу. Каб пабудаваць вялікі чыгуначны мост, для гэтага патрабуюцца тысячы людзей. Але каб яго ўзарваць, на гэта дастаткова ўсяго некалькі чалавек. Такіх прыкладаў можна было б прывесці дзесяткі і сотні".

Запалохваючы пры дапамозе "такіх прыкладаў" краіну, Сталін разлічваў не толькі ўзняць хвалю тэрору. Гэта быў выпрабаваны і даўно вядомы прыём умацавання аднаасобнай дыктатуры.

І, нарэшце, яшчэ адна акалічнасць зусім відавочна стымулявала сталінскую рэпрэсіўную палітыку: у савецкай эканоміцы ўсё больш і больш выкарыстоўвалася "танная" рабочая сіла зняволеных. У шырокіх маштабах пачалося гэта з канца 20-х гадоў.

Палітычныя мэты тэрору падмацоўваліся "гаспадарчым разлікам", і рэпрэсіі ў вачах правадыроў дзяржавы атрымалі дадатковае абгрунтаванне. І ў гэтым выпадку, несумненна, Сталін дзейнічаў свядома і з разлікам. Перад ім была мэта — канчаткова ўціхамірыць грамадства, стварыць магутную ваенную прамысловасць і стаць адзінаўладным дыктатарам гэтай найвялікай у свеце дзяржаўнай машыны. Да дасягнення гэтай мэты ён ішоў, не задумваючыся пра метады, не падлічваючы ахвяры, не адчуваючы самых малых дакораў сумлення.

Беспадстаўнымі з'яўляюцца тлумачэнні масавых рэпрэсій і выключнай помслівасцю Сталіна. Так можна было знішчыць (фізічна або палітычна) дзесяткі, сотні, тысячы, але не мільёны людзей. Вядома, знішчэнне ў такіх маштабах мела перш за ўсё яўна выяўленую палітычную накіраванасць. Рэпрэсіі насілі не вузкаасабісты і зусім не бессістэмны, а менавіта палітычны характар. Сталін быў перакананы, што яго ідэя класавай барацьбы з'яўляецца асноватворнай. Калі былі знішчаны класы памешчыкаў і капіталістаў, ён знайшоў яшчэ адзін "клас", які трэба было ліквідаваць, — кулацтва. Нарэшце, ліквідаваўшы яго і застаўшыся без яўных ворагаў, Сталін вынайшаў тэорыю, па якой яны павінны былі існаваць заўсёды.

Устаноўка на масавы тэрор узнікла ў апараце НКУС зусім не адвольна. Сігнал яму зноў быў пададзены рашэннямі лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1937 года. Сталін заклікаў адкінуць прэч гнілую тэорыю аб тым, што з кожным крокам наперад класавая барацьба павінна нібыта ўсё больш і больш затухаць.

Для эфектыўнага правядзення рэпрэсіўных акцый неабходна было стварыць адпаведную "грамадскую думку" шырокіх народных мас. Бо маса павінна была верыць (і ў значнай ступені верыла) у пачварныя абвінавачанні 1937 года. Сталін пашырыў паняцце "вораг народа". "Гэты тэрмін адразу вызваляў ад неабходнасці ўсялякіх доказаў ідэйнай непраўты чалавека або людзей, з якімі ты вядзеш палеміку: ён даваў магчымасць кожнага, хто ў нечым не згодны са Сталіным, хто быў толькі западозраны ў варожых намерах, на каго быў проста ўзведзены паклёп, падвергнуць самым жорсткім рэпрэсіям, з парушэннем усялякіх норм рэвалюцыйнай законнасці" (З даклада М. С. Хрушчова "Аб культе асобы і яго выніках" XX з'езду КПСС 28 лютага 1956 года).

Прычыну настрою мас, якія паверылі ў "ворагаў народа", можна растлумачыць некалькімі фактарамі. Перш за ўсё, дзейнічалі культавыя адносіны да "правадыра". Істотнае значэнне меў комплекс антыінтэлігенцкіх настрояў, і без таго дастаткова распаўсюджаны ў СССР, дзе інтэлігенты атаясамляліся з дваранамі, памешчыкамі і г. д. Але гэтыя настроі яшчэ і падаграваліся выказваннямі Сталіна, сфальсіфікаванымі працэсамі супраць "шкоднікаў" і г. д.

Дзейнічаў і досыць рэальны комплекс капіталістычнага акружэння: адсюль рабілася выснова, што вакол ворагі і "ўнутры" поўна іх агентуры. Вядома, быў даволі рэальны шпіянаж капіталістычных дзяржаў. Захоўвалася магчымасць дзеяння з боку прадстаўнікоў контррэвалюцыйных палітычных груп і груповак, у асноўным былых эмігрантаў, якія дзейнічалі ў Францыі, Германіі, Турцыі і шэрагу іншых дзяржаў. Таму сцвярджэнні органаў НКУС аб існаванні контррэвалюцыйнага падполля ў СССР маглі аказацца праўдападобнымі.

У гэтых умовах фактычна была створана (і ў многім рукамі будучых ахвяр) такая палітычная абстаноўка, калі патэнцыяльная магчымасць масавых палітычных рэпрэсій — выключэнне з партыі, суд, а пры неабходнасці (або жаданні) і расстрэл — "вісела ў паветры". Патэнцыяльная магчымасць рэпрэсій рабілася рэчаіснасцю.

Хлусня органаў НКУС, хлусня друку, незлічоныя прамовы ў падтрымку "справядлівых прысудаў" стварылі сітуацыю, калі даведацца, у чым заключаліся прычыны падобнай вакханаліі, было амаль немагчыма. Менавіта таму сотні тысяч камуністаў і беспартыйных у 1937—1938 гадах галасавалі за выключэнне "ворагаў народа" з партыі і прыцягненне іх да крымінальнай адказнасці. Мільёны людзей на мітынгах і дэманстрацыях патрабавалі суровай расправы з "ворагамі народа".

Пасля такіх зваротаў органы НКУС паспяхова знаходзілі тысячы новых "ворагаў". Пры гэтым на суд і расправу многія нярэдка выдавалі не толькі сваіх учарашніх сяброў і таварышаў па службе, але і сваякоў. Што і казаць, большасць верыла Сталіну і органам НКУС. Былі, вядома, і тыя, хто сумняваўся, часцей за ўсё, калі гаворка ішла пра нейкія канкрэтныя выпадкі, але і яны маўчалі, аблягчаючы тым самым расправу над іншымі.

У 1937 годзе ЦК ВКП(б) і СНК СССР прынялі шэраг мер з мэтай умацаваць ролю органаў бяспекі, у прыватнасці, для супрацоўнікаў НКУС былі ўстаноўлены воінскія званні на тры ступені вышэй, чым у Чырвонай Арміі, аклады іх грашовага ўтрымання былі павялічаны адразу ў чатыры разы і значна перавысілі заработную плату работнікаў і служачых дзяржаўных устаноў.

Было прадугледжана таксама, што за правядзенне "аперацый" супраць ворагаў супрацоўнікі органаў маглі прадстаўляцца да ўзнагароджання баявымі ордэнамі і медалямі. У 1937 годзе былі пашыраны штаты саюзнага і рэспубліканскага НКУС, гарадскіх і раённых аддзелаў дзяржбяспекі. Спецыяльныя аддзелы былі створаны на ўсіх буйных прадпрыемствах, на ўстановах, навучальных установах. Сістэма зацвярджэння кадраў прадугледжвала, што ўсе сакратары парторганаў ад ЦК да райкомаў партыі зацвярджаліся на гэтыя пасты толькі пасля ўзгаднення з органамі НКУС.

Прававая падрыхтоўка да нябачаных па маштабах рэпрэсій пачалася ў 1937 годзе. Народны камісар юстыцыі М.Крыленка і пракурор СССР А.Вышынскі 8 студзеня 1937 года падпісалі цыркуляр, які пацвярджаў, што ўсе справы па контррэвалюцыйных злачынствах павінны разглядацца без удзелу абвінавачання і абароны. У сувязі з правядзеннем масавых "аперацый" у адносінах да былых кулакоў, членаў "антысавецкіх" партый, белагвардзейцаў, жандараў і чыноўнікаў царскай Расіі, бандытаў, рээмігрантаў, удзельнікаў "антысавецкіх" арганізацый, царкоўнікаў і сектантаў, у адпаведнасці з загадам НКУС СССР ад 30 ліпеня 1937 года быў зацверджаны персанальны склад абласных "троек" у складзе: старшыня — начальнік абласнога ўпраўлення НКУС, члены: сакратар абласнога камітэта КП(б)Б і абласны пракурор.

Для далейшай актывізацыі дзейнасці судовых і па-за судовых органаў 14 верасня 1937 года ЦВК СССР прыняў пастанову "Аб унясенні ў дзейныя крымінальна-працэсуальныя кодэксы саюзных рэспублік змен па разглядзе спраў аб контррэвалюцыйным шкодніцтве і дыверсіях". Згодна з гэтай пастановай, касацыйнае абскарджанне па справах аб злачынствах, прадугледжаных арт. 58-7 КК РСФСР і арт. 69-5 КК БССР (шкодніцтва) і арт. 58-9 КК РСФСР і арт. 71 КК БССР (дыверсія), а прысуды да вышэйшай меры пакарання (расстрэл) прыводзіліся ў выкананне неадкладна.

Асабліва актывізавалася дзейнасць НКУС БССР і абласных "троек" з ліпеня 1937 года, калі, згодна ўказанню "зверху", на месцах былі складзены спісы на ўвесь "контррэвалюцыйны" элемент. Услед за гэтым на Беларусі і ў іншых рэгіёнах краіны пачаліся масавыя аперацыі па ажыццяўленні арыштаў і фальсіфікацыі "контррэвалюцыйных спраў". Сэнс гэтых акцый зводзіўся да "стварэння" так званых "усесаюзных контррэвалюцыйных арганізацый": контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай, антысавецкай паўстанцка-тэрарыстычнай, эсэраўскай шпіёнскай, контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай, фашысцкай, Польскай арганізацыі вайсковай і многіх іншых.

Дык верылі ўсё ж сучаснікі ў існаванне соцень тысяч ворагаў ці, прыціснутыя тэрарам, рабілі выгляд, што вераць?

Шараговаму савецкаму грамадзяніну ў канцы 30-х гадоў было крайне няпроста разабрацца ў абстаноўцы. Не надта высокі ўзровень культуры, нязначны палітычны вопыт, беднасць інфармацыі — усе гэтыя акалічнасці рабілі людзей безабароннымі перад абсалютна пануючай афіцыйнай прапагандай.

Нярэдка недасведчаныя людзі спісвалі на ворагаў — што, прынамсі, часам робім сёння і мы — шматлікія цяжкасці, якія існавалі ў краіне.

Многія з кіраўнікоў, якія загінулі ў 1937—1938 гг., на самай справе былі "героямі" раскулачвання і выкачвання хлеба з паміраючых ад голаду вёсак, пераследавалі іншадумцаў, жалезнай рукой расправіліся з найменшым незадавальненнем, рэдка цырымоніліся з законамі і простай прыстойнасцю. А таму іх арышт успрымаўся часцяком як заслужанае пакаранне, калі не спачувальна, то абыякава. Несумненна, адыграў сваю ролю і своеасаблівы "эфект прывыкання" да гвалту.

Рэпрэсіі так або інакш закранулі мільёны. Але не ўсіх. Для многіх і ў гэтыя трагічныя гады жыццё складвалася даволі добра. Яны былі маладыя, працавалі, радаваліся жыццю, а значыць, былі шчаслівыя.

Гэтак жа ўспрымаў сваю маладосць і А.Салжаніцын: "Ведь воронки ходили ночью, а мы были — эти, дневные, со знаменами. Откуда нам знать и почему думать об арестах? Что сменили всех областных вождей — так для нас это было решительно все равно. Посадили двух-трех профессоров, так мы ж с ними на танцы не ходили, а экзамены еще легче будет сдавать. Мы, двадцатилетние, шагали в колонне ровесников Октября, и, как ровесников, нас ожидало самое светлое будущее".

Адыграла, вядома, сваю ролю і шчыльная заслона сакрэтнасці вакол усяго, што адбывалася ў засценках НКУС лагерах. Людзі жылі ў няведанні, а афіцыйная прапаганда прыкладала нямала намаганняў, каб гэтае няведанне ўмацаваць. Краіна жыла як бы ў двух вымярэннях. У адным заставаліся начныя арышты і расстрэлы, турмы і лагеры. У другім — устанаўлівалі рубінавыя зоркі на Крамлёўскіх вежах, прымалі рашэнні аб зніжэнні розничных цэн, высаджвалі экспедыцыю на Паўночны полюс, захоплена сустракалі Чкалава, Байдукова і Белякова, якія ўпершыню ў гісторыі здзейснілі беспасадачны пералёт па маршруце Масква — Паўночны полюс — Паўночная Амерыка. Ва ўсіх гарадах краіны ў моду ўваходзілі калектыўныя нядзельныя масоўкі і выезды на прыроду, гулянні ў гонар шматлікіх прафесійных святаў, выбараў і г.д.

Асаблівая ўспрымальнасць пакалення 30-х гадоў да афіцыйных версій падзей, што адбываліся, тлумачылася яшчэ і тым, што ўсялякія сумненні ў іх справядлівасці былі проста небяспечныя.

Усе гэтыя і іншыя абставіны перапляталіся, утвараючы складаную карціну, у якой зліваліся разам рэальнасць і хлусня, аб'ектыўныя праблемы і парочныя метады іх вырашэння, страх і вера ў правадыра, у Савецкую ўладу. Разабрацца ў гэтым калейдаскопе чалавеку 30-х гадоў было няпроста. І ўсё ж паступовае прасвятленне ахоплівала пэўныя пласты грамадства. Жахлівыя маштабы рэпрэсій, самыя неверагодныя абвінавачанні на адрас часта малаадукаваных і не маючых ніякага дачынення да палітыкі людзей, або, наадварот, кіраўнікоў, якіх яшчэ нядаўна абагаўлялі, — усё гэта нараджала сумненні, пошукі адказаў на балючыя пытанні жыцця.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

# АПОШНІЯ ВЕСТКІ

26-га красавіка для беларускага народу ракавы дзень, дзень Чарнобыльскай катастрофы. Дарэчы, у цэнтры Менску будуецца часоўня ў гонар іконы Божай Маці "Спагнаньне загінуўшых" у памяць аб загінуўшых пры ліквідацыі аварыі на АЭС. Адзінаццаць гадоў ужо Беларусь жыве пад знакам Чарнобыля. Але з гадамі трагэдыя не аддаляецца ад нас. І аддаляцца не будзе. Пачынаюць збывацца самыя змрочныя прагнозы лекараў і эколагаў. Сапраўдныя наступствы Чарнобыля беларусы адчуюць толькі праз дзесяцігодзьдзі. Аднак гэта ніколькі не перашкаджае дзяржаўным чыноўнікам ствараць усё новыя канцэпцыі і даказваць у іх бясшкоднасьць пражываньня людзей нават у зоне савецкага адсяленьня. Беспакаранасьць тых, хто ў 1986 г. рапартаваў Маскве, што "абстаноўка ў БССР нармальная, людзі ў раёнах блізкіх да ЧАЭС займаюцца пасяўной"... наражае новых сьлюнькоўных, якія замест таго каб дапамагчы людзям, бласлаўляюць і вітаюць іх вяртаньне назад у 1986 год...

***

У гэты дзень у Менску апазыцыяй быў наладжаны традыцыйны Чарнобыльскі шлях-шэсьце па вуліцах гораду, які закончыўся мітынгам. Улады пасьля доўгіх перамоў далі дазвол на яго правядзеньне. Удзельнікаў акцыі было каля 40 000 чалавек. Акцыя прайшла даволі ціха, трывожныя прадчуваньні не спраўдзіліся. На гэты раз на шляху вялізнай калоны з чорнымі і бел-чырвона-белымі сьцягамі было вельмі мала паліцыі. Мітынг быў жалобны і прамовы, у асноўным, былі прысьвечаныя чарнобыльскай тэме.

***

Дэлегацыя беларускіх праваабаронцаў наведала Міжнародную Гэльсінскую Фэдэрацыю за правы чалавека ў Вене, - Аўстрыя. Праграма візыту была вельмі насычанай. Сустрэчы з прадстаўнікамі Эўрасаюзу, АБСЕ, Савету Эўропы, аўстрыйскага парлямэнту, ураду і СМІ. Пад час візыты апублікаваны даклад "Парушэньні правоў чалавека ў Беларусі" пасьля рэфэрэндума. Усяго за гэты час зафіксавана болей 1000 канкрэтных фактаў парушэньня правоў чалавека. Большасьць рэпрэсіяў у адносінах удзельнікаў палітычных акцыяў. Зараз АБСЕ ў прынцыпе падрыхтаваны да прыняцьця ў адносінах да Лукашэнкі палітычных мераў узьдзеяньня. Візыт дэлегацыі прынёс нямала праблемаў беларускаму пасольству ў Аўстрыі. Быў выдадзены спэцыяльны прэс-рэліз, у якім сытуацыя ў краіне прадстаўлена ў ружовым колеры, але гэта не зьмяніла пагляды міжнароднай грамадзкасьці.

Леанід ЛЫЧ



# Сваёй уласнай мовай славіць Яго...

## ІДЭЯ АЎТАКЕФАЛЬНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

*"Настаў час адрадзіць сваю Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву на Бацькаўшчыне, Царкву нашых слаўных продкаў, якая накіроўвала наш Народ да вялікіх чынаў у рэлігійным і дзяржаўным жыцці..."*

(З пастырскага паслання беларускаму народу мітрапаліта Ізяслава, першаіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

*Нью-Йорк, кастрычнік 1991 г.).*

Праблема незалежнасці і самастойнасці ў пытаннях арганізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцця спрадвеку хвалявала многіх высокіх духоўных і дзяржаўных асоб нашай зямлі, бо яны добра ведалі, як гэта станоўча адаб'ецца на нацыянальным суверэнітэце краіны. Таму зусім заканамерна, што чым больш Полацкае і Турава-Пінскае княствы ў той ці іншы час станавіліся палітычна незалежнымі ад Кіева, тым большае было ў іх жаданне быць самастойнымі ад яго і ў рэлігійным плане. Дамагчыся такога было вельмі няпроста, бо духоўнае жыццё Полацка ледзь не цалкам рэгулявалася Кіевам. Менавіта адсюль яму ў XII ст. былі прысланы епіскапы Міна, Дыянісій, Сімяён. Стаць Полацку незалежным у пытаннях царкоўна-рэлігійнага жыцця ад Кіева ўдалося толькі пасля разбурэння яго войскамі мангольскага хана Батыя. Мітрапаліты гэтага горада заснаваліся спачатку ва Уладзіміры, затым у Маскве. Паколькі пасля ўсталявання татара-мангольскага прыгнёту ўскладніліся адносіны паміж усходнеславянскімі землямі, узнікла рэальная магчымасць заснавання новых, незалежных ад Масквы мітраполій, што ахвотна выкарыстала наша духавенства. Упершыню ствараецца ў нас цалкам самастойная Літоўска-Новагародская мітраполія з цэнтрам у сталіцы Вялікага княства Літоўскага — Новагародку. Канстанцінопальскі патрыярх з вялікім разуменнем паставіўся да такіх пачынанняў і ў 1317 г. благаславіў адкрыццё Літоўска-Новагародскай мітраполіі. Усталяванне дзякуючы ўсяму гэтаму тоеснасці ў поглядах свецкай і духоўнай уладаў ВКЛ па самых прынцыповых пытаннях палітыкі вельмі добра спрыялі яму праводзіць свой курс унутры краіны і па-за яе межамі.

Але, на вялікі жаль, такая тоеснасць доўжылася кароткі тэрмін. У 1330 г. на чале Літоўска-Новагародскай мітраполіі ўдалося стаць прыхільніку Масквы Феагносту, які з дапамогай вялікага князя ўладзімірскага Івана Каліты, вядомага як актыўнага змагара за ператварэнне Масквы ў цэнтр царкоўнага праваслаўнага кіравання, ліквідаваў тую мітраполію, якую ён павінен быў бы ўсімі сіламі адстойваць, клапаціцца аб яе ўмацаванні і аўтарытэце. Ізноў ВКЛ у царкоўна-рэлігійных пытаннях стала залежаць ад чужой дзяржавы, якая пасля вызвалення ад татара-мангольскіх заваёўнікаў стала праяўляць усё большую зацікаўленасць да сваіх суседніх краін на захадзе з мэтай іх падпарадкавання.

Гэтыя агрэсіўныя планы ўсходняй дзяржавы не маглі не быць заўважанымі вялікімі літоўскімі князямі Альгердам і Вітаўтам. Гэта іх клопатам беларускі і ўкраінскі народы абавязаны зацвярджэннем у 1487 г. у ВКЛ сваёй уласнай незалежнай Праваслаўнай (Кіеўскай) мітраполіі. Праз год і Руская Праваслаўная Царква набыла сабе статус аўтакефальнай, чым выклікала нечуваны гнеў канстанцінопальскага патрыярхата. Больш за 140 гадоў ён упіраўся жаданню Рускай Праваслаўнай Царквы атрымаць аўтакефалію, але нарэшце згадзіўся. І ад таго, што РПЦ спачатку стала аўтакефальнай, а затым узнік Маскоўскі патрыярхат, аўтарытэт праваслаўя ў свеце ніколькі не пахіснуўся. Да сказанага дадам, што менавіта ад гэтага часу паміж Канстанцінопалем і Масквой усталяваліся самыя прыязныя адносіны. Гэта толькі напачатку ўзнікалі рознага роду канфліктныя сітуацыі. Адсюль вынікае, што аўтакефалія для праваслаўнай царквы любой незалежнай краіны — гэта зусім нармальная з'ява, бо палітычна самастойнай краіне трэба мець такую ж самастойнасць і ў рэлігійным пытанні, інакш суверэнітэт акажацца не зусім паўнавартасным.

Набыўшы статус аўтакефаліі, а затым яшчэ і займеўшы ўласнага патрыярха, Руская Праваслаўная Царква Маскоўскай дзяржавы вельмі істотна ўмацавала свае пазіцыі, атрымала магчымасць уплываць на справы Праваслаўнай Царквы ВКЛ. Дзякуючы гэтаму і ў моц іншых прычын апошняя не магла доўгі час заставацца незалежнай, што адыграла самую адмоўную ролю ў самім жа яе жыцці. Па гэтай прычыне яна не ў стане была як след супрацьстаяць пранікненню ў наш край ні каталіцызму, ні пратэстантызму, ні уніяцтву, у выніку чаго страціла сваё пануючае становішча. Калі ж ВКЛ разам з Польскай Каронай аб'ядналіся ў адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, у выніку чаго небывалы размах набыло акаталічванне, апалячванне беларусаў, думаць аб аўтакефаліі Праваслаўнай Царквы на нашай зямлі было ў такіх умовах зусім нерэальнай справай. Тут хаця б як-небудзь выжыць, а не быць незалежнай. Дзеля выжывання кіраўніцтва Праваслаўнай Царквы Беларусі гатова было ісці на любое збліжэнне, нават на поўную залежнасць ад Маскоўскай патрыярхіі. Аднак гэта адбылося значна пазней, ужо тады, як у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Расійская імперыя ледзь не цалкам уключыла ў свой склад беларускія землі. Гэтым самым быў забіты асінавы кол ва ўсе планы займець аўтакефалію для Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

Праўда, сама ідэя аўтакефальнасці ніколі не памірала ў найбольш этнічна самасвядомай часткі нашага народа. Таму як толькі пасля ўтварэння ў студзені 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пачаў набіраць рэальныя рысы яе дзяржаўны суверэнітэт, гэтая ідэя з тэарэтычнай плоскасці стала пераходзіць у практыку. Усё больш духоўніцтва, грамадскіх дзеячаў, інтэлігенцыі пачынала разумець, што ў гэтых умовах у беларусаў існуе вялікая патрэба мець сваю, незалежную ад Масквы, Кіева і ад Варшавы... царкву. Ёю магла быць толькі праваслаўная, бо на яе падала абсалютная большасць вернікаў нашай краіны. Глыбока разумеў праблему аўтакефальнасці прагрэсіўны духоўны дзеяч, мінскі праваслаўны епіскап Мелхіседэк (сапр. М. Паеўскі). У складзеным з яго ўдзелам у 1922 г. дакуменце наконт гэтага прама гаварылася аб неабходнасці праваслаўнай Беларусі ўсяляк імкнуцца "да ўпарадкавання свайго царкоўнага жыцця на асновах поўнай незалежнасці (аўтакефаліі)". У 1922 г. на Мінскім епархіяльным з'ездзе Мелхіседэк абіраецца беларускім мітрапалітам. Ён адразу ж разгарнуў актыўную дзейнасць па заснаванні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ).

Трэба сказаць, што напачатку маскоўскі патрыярх Ціхан даволі прыхільна паставіўся да створанай у ліпені 1922 г. Беларускай мітраполіі, дазволіўшы выкарыстоўваць беларускую мову ў набажэнствах, у казаннях там, дзе для гэтага будуць магчымасці, пагадзіўся на выданне рэлігійнай літаратуры на беларускай мове. З арыштам у тым жа годзе патрыярха Ціхана ўзмацніўся націск партыйных і савецкіх органаў на дзейнасць Праваслаўнай Царквы, аднак Беларуская мітраполія не спыніла сваёй дзейнасці па беларусізацыі набажэнства. Больш таго, у жніўні праходзіць з'езд прадстаўнікоў Мінскай епархіі, на якім прымаецца рашэнне аб стварэнні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. І калі яна праіснавала зусім мала часу, дык толькі таму, што гэтую ідэю не падтрымала Маскоўская патрыярхія. Галоўны змагар за аўтакефалію на Беларусі Мелхіседэк высылаецца ў Краснаярск, затым пераводзіцца ў Маскву, дзе неўзабаве памірае. Выказваецца меркаванне, што ўчыніць расправу з Мелхіседэкам дапамог АДПУ сам мітрапаліт Рускай Праваслаўнай Царквы Сергій (Старагародскі), які пазней, у 1927 г., заклікаў духавенства да супрацоўніцтва з савецкай уладай, не без дапамогі якой ён затым атрымаў царкоўную пасаду патрыярха.

Паўторнае абвяшчэнне ў Мінску Беларускай мітраполіі аўтакефальнай царквой адбылося ў 1927 г. Праўда, прыкметнага следу ў рэлігійным жыцці беларускага народа яна не паспела зрабіць з-за палітыкі самой дзяржавы ў даным пытанні. Ізноў адмоўна паставіліся да ідэі аўтакефальнасці на Беларусі і кіраўнікі Рускай Праваслаўнай Царквы, ведаючы, што іх у гэтым падтрымаюць дзяржаўныя і партыйныя ўлады Маскоўскага Крамля і сёй-той у самой Беларусі. Руская Праваслаўная Царква ўвесь гэты час вельмі ўмела распальвала ўнутрырэлігійную барацьбу ў нашым краі.

Больш удалай была спроба стварыць аўтакефалію ў праваслаўнага духавенства Магілёва. У адпаведнасці з праведзеным тут у 1924 г. саборам Беларуская Праваслаўная Царква абвяшчалася аўтакефальнай. Неўзабаве яна ахапіла каля паловы ўсіх парафій Рускай Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Канец аўтакефальнасці быў пакладзены толькі ў 1934 г., калі ўжо пракацілася не адна хваля барацьбы з беларускім "нацдэмакратызмам".

Ідэя Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы хвалявала нямала каго з нацыянальна свядомай часткі беларускай інтэлігенцыі тых нашых этнічных тэрыторый, што апынуліся ў складзе іншых дзяржаў. На салідной тэарэтычнай аснове выклаў яе ў 11-м нумары (лістапад 1921 г.) газеты "Беларускія ведамасці" (выходзіла з верасня 1921 г. у г. зв. Сярэдняй Літве, рэдактар Максім Гарэцкі) пляменнік вядомага генерала Парыжскай камуны Валерыя Урублеўскага, адвакат і пісьменнік Тадэвуш Урублеўскі, які карыстаўся псеўданімам Т. Вароніч. У артыкуле "Аб аўтакефальнасці Праваслаўнай Царквы" ён робіць невялікі экскурс у гісторыю, каб паказаць чытачу, якія традыцыі ёсць у беларускага народа ў гэтай справе. Не ўтойвае і цяжкасцяў у стварэнні аўтакефальнай царквы, звязаных з тым, што пасля заканчэння Першай сусветнай вайны абсалютная большасць тэрыторыі Беларусі належала чужым дзяржавам. Нягледзячы на гэта, Т. Вароніч прапануе ў кожнай з іх стварыць незалежныя беларускія праваслаўныя цэрквы, якія, як толькі ўся Беларусь стане незалежнай дзяржавай, будуць аб'яднаны ў адзіную аўтакефальную царкву.

Ідэю атакефальнасці праваслаўнай царквы на далучаных да Польшчы пасля Рыжскага дагавора 1921 г. беларускіх і ўкраінскіх землях ахвотна падтрымаў і ўрад Ю. Пілсудскага, бачачы ў гэтым важны сродак вызвалення ад уплыву рускага элемента на рэлігійнае жыццё краіны. Між іншым, хаця рускіх сярод вернікаў гэтай канфесіі быў зусім нязначны працэнт, аднак кіраўніцтва праваслаўнай царквы Заходняй Беларусі знаходзілася ў іх руках. Са згоды польскіх уладаў колішні Мінскі архіепіскап Юры Ярашэўскі (па нацыянальнасці ўкраінец) пачаў рабіць некаторыя крокі па аўтакефаліі, што выклікала рэзка адмоўную рэакцыю рускага духавенства. У выніку архімандрыт Смарагд Латышэнка, рускі па паходжанні, у лютым 1923 г. застрэліў архіепіскапа Юрыя ў мітрапалітным палацы ў Варшаве. І ўсё ж польскі ўрад дамогся ў 1924 г. ад Візантыйскага патрыярха прызнання аўтакефаліі за Праваслаўнай Царквой у Польшчы, падпарадкаваўшы яе сваім інтарэсам. Нават набажэнствы ў ёй вяліся пераважна на польскай мове. Надзея беларусаў займець сваю аўтакефальную праваслаўную царкву і тут праваліласся. Калі раней праваслаўе вяло лінію на русіфікацыю беларускага народа, дык цяпер — на паланізацыю. Такога яшчэ не здаралася ў гісторыі Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

Цяга нацыянальна свядомых праваслаўных святароў, свецкай інтэлігенцыі да беларускасці не магла не праявіць сябе падчас нямецкай акупацыі ў гады Другой сусветнай вайны, калі ў выніку вызвалення з-пад апекі і жорсткага кантролю Маскоўскай патрыярхіі стварылася магчымасць ладзіць рэлігійнае жыццё незалежна і самастойна, калі зноў у пэўнай часткі людзей узнікла, праўда, вельмі хісткая, надзея на дасягненне дзяржаўнага суверэнітэту, зразумела, вельмі абмежаванага. Даволі хутка было сфармавана ўласнае царкоўнае кіраўніцтва на Беларусі. Спачатку гэта была мітрапаліцкая ўправа, затым — Сінод, які ўзначаліў мітрапаліт Панцеляймон (П.Ражноўскі). У шэрагу месцаў удалося падабраць для кіравання епархіямі вельмі адданых беларускай справе епіскапаў.

Добра памятаючы, якія адмоўныя наступ-

## АПОШНІЯ ВЕСТКІ

Па дадзеных Нацыянальнага Банку Беларусі агульная сума ўзаемазапазычанасьці паміж суб'ектамі гаспадараньня краіны перавышае 63 трыльёнаў рублёў. У ходзе прайшоўшага нядаўна першага этапу пагашэньня даўгоў, гэтую суму ўдалося паменшыць на 1%.

***

Зборная Беларусі па хакею стала чэмпіёнам сьвету ў групе "В" і заваявала права на наступны год выступаць у групе "А". Зборная Беларусі далучыцца да такіх грандаў сусьветнага хакею, як Канада, Чэхія, Фінляндыя, Швэцыя і інш... Віншуем!

***

Старшыня дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы вельмі занепакоены далейшым лёсам гэтага фонду. Створаная па заказу бясьпекі камісыя можа паставіць крыж на аздараўленьні беларускіх дзяцей, на гуманітарнай дапамозе, на далейшай дзейнасьці фонду. Фінал чакаецца вельмі сумным. Генадзь Грушавы стаў на бок апазыцыі...

***

Камітэт ААН па правах чалавека адобрыў праграму работы летняй сэсыі камітэту, якая адбудзецца ў Жэневе 14 ліпеня 1997 г. На разгляд сэсыі будуць прадстаўлены даклады 5 краінаў, у тым ліку і Беларусі на адпаведнасьць сытуацыі ў іх палажэньням Міжнароднага пакту аб грамадзкіх і палітычных правах. Гэта будзе чацьверты пэрыядычны даклад Беларусі, заслуханы камітэтам ААН. Мінулы быў прадстаўлены ў лістападзе мінулага году. Па выніках яго разгляду камітэт заявіў, што усталяваньне рэжыму на Беларусі, які сканцэнтраваў усю ўладу ў руках прэзыдэнта за кошт прыніжэньня незалежнай ролі парлямэнту і судовай улады, не адпавядае палітычнаму клімату, неабходнаму для выкананьня правоў чалавека...

***

26-га красавіка, у дзень перад праваслаўным Вялікаднем, у Грэнд Рэпідс, штат Мічыган, прыляцелі дзьве дзяўчынкі з Менску на складаныя апэрацыі сэрца. Адной дзяўчынцы 2 годзікі, другой 9 гадоў. Затрымаліся яны ў тутэйшых сем'ях, якія будуць дагледаць гэтых дзяўчатак да апэрацыяў і пасьля іх.

ствы для Беларусі мела падначаленасць яе Праваслаўнай Царквы Найсвяцейшаму Сіноду, а пазней Маскоўскай патрыярхіі, цяпер высокія духоўныя асобы гэтай хрысціянскай канфесіі ўсяляк імкнуліся да поўнай незалежнасці. Дасягнуць яе меркавалася праз заснаванне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Доўга і старанна рыхтаваліся да прыняцця такога акта, што павінна было адбыцца на спецыяльна скліканым Саборы. Быць выбранымі на яго маглі толькі праваслаўныя рэлігійныя асобы беларускай нацыянальнасці. Такі крок можна цалкам апраўдаць, бо за ўвесь папярэдні перыяд Руская праваслаўная царква заслала ў наш край нямала святароў рускай нацыянальнасці, большасць з якіх наўрад ці падтрымала б ідэю аўтакефальнай праваслаўнай царквы на Беларусі.

Сабор адбыўся ў Мітрапалітальнай Прабражэнскай царкве ў Мінску. Сваё першае пасяджэнне Усебеларускі Праваслаўны Сабор правёў 30 жніўня 1942 года. Перад гэтым адбылося ўрачыстае богаслужэнне. У пасяджэннях Сабора з правам вырашальнага голасу ўдзельнічалі ад духавенства 36 чалавек, у тым ліку заступнік Мітрапаліта ўсяе Беларусі архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Філафей, епіскап Віцебскі і Полацкі Афанасій, епіскап смаленскі Сцяпан, архімандрыт Жыровіцкага манастыра Серафім, выбраныя прадстаўнікі ад епархіяў Мінскай, Навагрудска-Баранавіцкай і Смаленскай, а таксама ад свецкіх установі арганізацый 39 асобаў. З дарадчым голасам, апрача Перадсаборнай Камісіі, прымалі ўдзел яшчэ 8 чалавек. Прысутнічалі таксама шматлікія госці.

Асноўныя даклады былі заслуханы на наступны дзень пасля склікання Усебеларускага Праваслаўнага Сабора. З іх найбольш важнае значэнне меў рэферат протаіерэя Язэпа Балая "Царкоўна-кананічныя асновы аўтакефаліі". Аўтар грунтоўна раскрыў формы аўтакефальнага царкоўнага жыцця, пераканаўча паказаў наяўнасць на Беларусі ўсіх неабходных умоў для ўвя-дзення аўтакефаліі: "Мы праваслаўныя Беларусы, — заяўлялася ў рэфераце, — як нацыя, ад веку жывём на сваёй бацькаўшчыне Беларусі, якая сягоння з'яўляецца асобным палітычным арганізмам у сям'і народаў Новай Эўропы, і гэта дае нам права на агалошанне аўтакефаліі". У рэфераце прапаноўвалася Сабору звярнуцца *"з просьбай да Галоваў усіх Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў аб прыняцці ў сваю сям'ю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы як раўнапраўнай сястры"*.

Сваю працу Сабор закончыў 2 верасня 1942 г. У канцы была прынята пастанова аб накіраванні лістоў Кіраўнікам Аўтакефальных Цэркваў — Румынскаму і Сербскаму патрыярхам, Балгарскай Аўтакефальнай Царквы, Грэцкай Царквы, Аўтакефальнай Царквы Генералгубернатарства (уваходзілі далучаныя ў 1939 г. да Германіі землі Польшчы) з просьбай прыняць Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву як родную сястру ў сям'ю Праваслаўных Цэркваў. Падчас заканчэння працы Сабора прыбылі прывітаць і выказаць яму найлепшыя пажаданні беларускія католікі Язэп Найдзюк, Антон Шукелайць і Ст. Васюковіч. У прынятых Усебеларускім Праваслаўным Саборам пастановах сцвярджалася, "што: а) пры царскай Расіі Праваслаўная Царква Беларусі страціла сваё рэлігійнае аблічча, сталася правадніком царскае палітыкі і прыладай русіфікацыі беларускага народа; б) палякіператварылі царкву Беларусі ў інструмент апалячвання; в) бальшавікі поўнасцю знішчылі рэлігійнае жыццё і паўстаючую Аўтакефальную Беларускую Царкву (у 1927 г. меркавалася склікаць Праваслаўны Сабор. — **Л.Л.**)... г) цяпер Беларусь, вызваленая ад чужанацыянальных варожых Беларускаму Праваслаўю заграбнікаў, атрымаўшы вольнасць рэлігійнага жыцця, засноўвае вольную і незалежную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Бо толькі аўтакефальная, незалежная царква не будзе прыладдзем чужых імкненняў і поўнасцю адбірае падставы ад умяшання чужынцаў у нашае жыццё, якія праз царкву хацелі б і цяпер праводзіць сваю шкодную беларусам палітыку". Фармальна ж абвясціць Беларускую Праваслаўную Царкву аўтакефальнай вырашылі пасля заканчэння вайны. Ад гэтага часу Праваслаўная Царква Беларусі пачала кіравацца асобным, апрацаваным і прынятым Саборам статутам, мела свой Свяшчэнны Сінод. Уся тэрыторыя Беларусі падзялілася на восем епархій: Мінская (мітрапаліцкая), Брэсцкая, Віцебская, Гомельская, Гродзенская, Магілёўская, Наваградская, Палеская. Як бачым, у Беларускую Праваслаўную Царкву ўваходзілі і тэрыторыі, якія не належалі да юрысдыкцыі Беларускага генеральнага камісарыята. Такі падыход трэба прызнаць вельмі правільным, бо дазваляў царкве праводзіць адзіную рэлігійную палітыку амаль на ўсёй гістарычнай тэрыторыі беларусаў. Узначаліць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву даверылі мітрапаліту Панцеляймону, які вызначаўся дастаткова высокім узроўнем тэарэтычных ведаў, меў багатую прафесійную практыку служэння Богу. Аднак стварэнне БАПЦ нельга аднесці ў заслугу мітрапаліту Панцеляймону. Ён хутчэй за ўсё проста выканаў волю духоўных асоб больш нізкага рангу, але з належнай, больш высокай, чым у яго, нацыянальнай самасвядомасцю. Гэтай жа якасцю мітрапаліт Панцеляймон, былы афіцэр царскай арміі, не ўладаў, бо ў першыя ж гады эміграцыі ён гэтак лёгка не пайшоў бы на скасаванне БАПЦ.

Несумненна, і сярод тых, хто ўдзельнічаў у стварэнні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, было нямала асоб, якія добра ведалі, якое гэта магло мець лёсавызначальнае значэнне для роднага краю. З поўнай падставай тут можна назваць Мікалая Лапіцкага, які ў 1935 г. атрымаў ступень магістра багаслоўя за працу "Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім за часоў панавання Уладзіслава Ягайлы". З 1942 г. ён быў на службе ў Мінскай мітрапалітальнай управе. Такога чалавека і палічылі патрэбным паклікаць на працу ў Перадсаборную камісію, а затым і запрасіць на Царкоўны Сабор, дзе вырашалася пытанне аўтакефальнасці праваслаўя на Беларусі. Як толькі маглі, дапамагалі стварэнню незалежнай Беларускай Праваслаўнай Царквы прагрэсіўныя колы інтэлігенцыі, чаму не пярэчылі ваенныя і цывільныя акупацыйныя ўлады.

Вышэйапісаная падзея ў царкоўна-рэлігійным жыцці не магла застацца незаўважанай. Яна прыцягнула да сябе ўвагу. Вось як апісвае той час сведка падзей у акупаванай Беларусі Ян Пятроўскі: "Царкоўныя арганізацыі, асабліва на Усходзе, дзякуючы скліканню Сінода Праваслаўнае беларускае царквы, актывізаваліся на ўсіх занятых абшарах. Гэтаксама і беларускія неапратэстанты, каторыя раней былі асломеныя расійскасцю, дэманстравалі сваю беларускасць".

І ўсё ж поўнай і працяглай згоды ўнутры праваслаўнага епіскапата Беларусі не усталявалася. Такое лёгка зразумець, бо ў яго і раней і цяпер уваходзілі асобы з прарускай пазіцыяй, якія добра ведалі, як Маскоўская патрыярхія ставілася да ідэі аўтакефальнасці. Магчыма, асобы такой арыентацыі і змаглі так паўплываць на мітрапаліта Панцеляймона, што ён не паслаў пратаколы Сабора і ліст да Канстанцінопальскага патрыярха на апрабацыю і блаславенне.

Рэлігійна-царкоўным становішчам на Беларусі цікавіліся дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, што працавалі ў створаных акупантамі ўстановах і службах. Іх хвалявала павольнае і непаслядоўнае ўвядзенне беларускай мовы ў богаслужэнне і рэлігійнае навучанне. Тут царква істотна адставала ад тых дасягненняў, што меліся ў свецкіх установах асветы і культуры. Але галоўнае, трэба прызнаць, што беларусізацыя царкоўна-рэлігійнага жыцця ўсё ж пачалася і гадам раней ці пазней яно адчула б пад сабой нацыянальны грунт. Не дало гэтаму збыцца вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, разам з якімі падаліся на захад і амаль усе асноўныя духоўныя асобы Праваслаўнай Царквы.

*(Працяг будзе)*






# ВОБРАЗЫ РОДНАГА КРАЮ

У самым цэнтры Чыкага, у вэстыбюлі мэрыі, дзе побач на плошчы ўзвышаецца славутая вылітая з металу "Жанчына" Пабла Пікаса, нядаўна адкрылася выстава твораў двух мастакоў — Леаніда Асеньняга і Анатоля Упарта. Абодва яны прыехалі ў розны час у Чыкага з Беларусі. І гэта, натуральна, вызначае характар і накірунак іх творчасьці. Таму што немагчыма збегчы ад сваёй памяці, ад вобразаў той зямлі, дзе нарадзіўся і вырас, вырвацца з сілавога поля прыцягненьня яе духоўнасьці.

Леаніду Асеньняму ў наступным годзе будзе пяцьдзесят, у Беларусі ён быў вядомы і як мастак і як цікавы архітэктар-рэстаўратар. Ён, напрыклад, прымаў актыўны ўдзел у рэстаўрацыі такіх сусьветна вядомых помнікаў беларускай архітэктуры сярэдневечча, як замак у Міры, Музэй народнага мастацтва ў Ветцы, Траецкага прадмесьця ў Менску ды іншых. Сярод яго цікавых рэканструкцыяў — пошук і аднаўленьне старадаўняга беларускага народнага тэатра "Батлейка".

Магчыма, таму ў яго творчасьці так спалучаны і цікавасьць да архітэктуры і чыста мастакоўскія, жывапісныя задачы. На выставе ня вельмі багата твораў, але яны сьведчаць менавіта пра гэта. Хвалююць напісаныя алеем менскія краявіды — "Вуліца Гандлёвая", "Царква сьв. Аляксандра Неўскага". Архітэктурныя матывы асноўныя і ў невялікіх па памеры акварэлях Леаніда Асеньняга. Ён малюе Астанкінскі палац у Маскве, архітэктурныя помнікі ў Пушкіна, пэйзаж у Празе, і штораз падкрэслівае і колерам, і кампазыцыяй дзівосную гармонію архітэктуры і навакольнага асяродзьдзя, пэйзажу. Безумоўна, жывучы ў Чыкага, нельга ня быць зачараваным яго архітэктурнай непаўторнасьцю. Таму, напэўна, і была напісана Леанідам Асеньнім такая карціна, як "Даўнтаўн Чыкага", дзе за строгім рытмам і амаль абстракнай дэкаратыўнасьцю мы бачым знаёмыя абрысы вядомых будынкаў, створаных найвыдатнейшымі дойлідамі нашага стагодзьдзя.

Другі мастак, творы якога бачым на гэтай выставе, Анатоль Упарт — яшчэ зусім малады, яму ўсяго дваццаць адзін год. Малюе ён з дзяцінства, да ад'езду з бацькамі ў Амэрыку пасьпеў скончыць у Менску Мастацкі ліцэй. Тут у Чыкага ён паступіў у школу пры Чыкагскім Арт-Інстытуце, дзе вучыцца і зараз. Творчая індывідуальнасьць Анатоля Упарта яшчэ толькі фармуецца. Як ён сам прызнаецца, яго натхняюць беларускія іканапіс і дойлідства, гатычныя вітражы і візантыйская мазаіка, мастакі рускага авангарду і Вермэер, Врубель... Увагу наведвальнікаў выставы прыцягвае яго праца "Няміга", карціна, напісаная, нібы абраз, алеем па дрэву. Тэхніка жывапісу Анатоля Упарта нагадвае мазаічную. Малады мастак нібы дзеліцца ў творы сваім эмацыянальным успрыйманьнем шматвекавой і шматпакутнай гісторыі легендарнай ракі, імя якой дало назву карціне. Падобнае-ж запрашэньне да роздуму і ў выкананых у той-ж тэхніцы карцінах Анатоля Упарта "Нараджэньне блакітнага крышталю", "Формула пэйзажу".

Вельмі добра, што ў пошуках сваёй творчай манеры Анатоль Упарт ставіць перад сабой складаныя мастакоўскія задачы. У рознай тэхніцы — афорт, літаграфія, туш на паперы — выкананыя і яго графічныя творы, што мы бачым на гэтай выставе.

Анатоля Упарта ўжо заўважылі ў Арт-Інстытуце і запрасілі працаваць у Prints and Drawings Department гэтага музэю. Ён набывае прафэсію рэстаўратара, прадаўжаючы цікавіцца гісторыяй мастацтва ды складанымі тэхнікамі друкаваных формаў.

Выстава твораў Леаніда Асеньняга і Анатоля Упарта, арганізаваная аддзелам культуры мэрыі і Беларускім Каардынацыйным камітэтам Чыкага, была прысьвечана нацыянальнаму сьвяту Беларусі — Дню Незалежнасьці 25 Сакавіка.

Ванкарэм Нікіфаровіч.
Чыкага, ЗША.

# Новый Союз. Или АННЕКСИЯ?

*Полемические заметки о белорусских праздниках*

Об этом празднике знают, к сожалению, немногие. 25 марта—День независимости Беларуси. День истинной, настоящей независимости. В этот день в 1918 году избранное накануне на Первом Всебелорусском Конгрессе правительство—Рада Белорусской Народной Республики—на специальном заседании (сессии) приняло так называемую Третью Уставную грамоту, в которой торжественно объявлялось, что народы Беларуси (на Конгрессе на основании свободных выборов были представлены пропорционально все народы, жившие тогда в республике, в том числе и евреи, и все политические партии) сбрасывают «последнее иго государственной зависимости, наброшенное российским царизмом», и что с этого времени Белорусская Народная Республика—«независимое и свободное государство».

Долгие годы и десятилетия этот праздник отмечался только белорусами в эмиграции. Уже в декабре того же 1918 года большевики и занявшая почти всю Беларусь Красная Армия запретили деятельность действительно всенародно избранного правительства—Рады БНР. Потому что коммунисты не хотели ни с кем делить власть в бывшей фактически колонии Российской империи и потому что имперская форма правления прекрасно подходила для тех, кто огнем и кровью насаждал «самую передовую» идеологию. После крушения тоталитарной коммунистической системы и распада СССР вспомнили об этом празднике и в Республике Беларусь. При С. Шушкевиче (как называют то время теперь) в Минске и других городах проходили даже митинги и торжественные заседания, посвященные дню 25 марта. На одном из них выступил живущий ныне в Нью-Йорке Председатель Рады БНР в изгнании Язэп Сажич и заявил, что возглавляемая им Рада слагает свои полномочия, поскольку Беларусь обрела новую независимость и здесь начались серьезные демократические и рыночные преобразования.

Но, как вскоре заметил сам Я. Сажич и другие выступавшие прошлой осенью на Съезде белорусов мира в Кливленде, слишком рано было сделано такое заявление. С приходом к власти президента Александра Лукашенко многое переменилось в Республике Беларусь. И главный парадокс этих перемен заключается в том, что при амбициозном, стремящемся к абсолютной диктаторской по сути власти и практически добившемся ее президенте Лукашенко республика фактически утратила свою независимость и суверенитет после подписания 2 апреля Договора о Союзе Беларуси и России. Предстоит чисто формальное «всенародное», как в старые времена, обсуждение, и возникнет новый «Союз». Даже Борис Ельцин, один из главный могильщиков прежнего, с радостью подхватил это особое любимое коммунистами Госдумы название.

Характерно, что на нелепость и нетактичность такого «Союза» в рамках СНГ сразу же обратил внимание президент Украины Леонид Кучма. Об интеграции двух постсоветских государств, об их объединении в последнее время много пишут, говорят, спорят. Думается, что политики разных направлений и, конечно, такой стихийный популист, как Лукашенко, спекулируют прежде всего традиционной дружбой между русским и белорусским народами, особенно окрепшей (при всей неоднозначности и сложности этого процесса) в советские годы, а также многочисленными родственными связями, особенно усилившимися в послевоенное время, когда в опустошенную Беларусь, где четверть населения погибло и столько же осталось в эвакуации, хлынула масса людей из тоже голодных областей России. Ну разве можно не дружить и не стремиться жить вместе с теми, с кем и мучались рядом, и страдали, и кровь проливали в боях против общего врага? Что бы сегодня ни говорили, были и взаимодействие культур, и общие духовные процессы. Подумаешь, резко сузилась и ограничилась сфера употребления белорусского языка. Так ведь язык—это не надстройка, как доказывал в своих знаменитых трудах по вопросам языкознания «корифей науки», за годы преступного правления которого вообще исчезли многие языки; пытались уничтожить и некоторые целые народы, да не смогли, оказалось, это не так просто. С языками и национальной культурой куда легче—при коммунизме, как утверждал другой «корифей» из подручных первого, все должны говорить только на одном языке.

С другой стороны, многие в Белоруссии сегодня наивно верят в то, что слияние с Россией решит ряд экономических проблем и остановит резкое падение уровня жизни. Это заблуждение особенно опасное. Дело в том, что экономические структуры этих двух государств в настоящее время разительно отличаются. При всем несовершенстве и при всей ограниченности рыночных реформ Россия ушла далеко вперед в своих преобразованиях, а в Беларуси сделаны только первые очень робкие ходы, многие из которых уже взяты назад. Я весьма критически отношусь к сводкам Белорусского статистического управления в последние два года, но этим цифрам можно верить: государственный сектор сегодня составляет в экономике Беларуси 68 %, частный—только 32 %, причем за счет, в основном, мелких частных ремесел и торговых точек, что в сущности, и было при социализме. Что же изменилось? Вряд ли российское или возможное будущее общее правительство при наличии таких кризисных проблем у себя в России сможет «вытащить» белорусов, которым, чтобы как-то подняться, нужна настоящая рыночная реформа и вместе с ней серьезный приток инвестиций. Более развитый сектор экономики всегда выкачивает, сосет у менее развитого. Поэтому образование нового «Союза» может привести к катастрофическому ухудшению жизни и резкому обнищанию населения в Беларуси.

Все это вовсе не означает, что процессы межгосударственной интеграции Беларуси и с Россией, и с другими странами вообще не плодотворны и не необходимы. Но это должен быть естественный, экономический прежде всего процесс, управляемый законами рынка, а не государственным диктатом. Убедительный пример тому—опыт многих государств Европы. Преобладание акций иностранных инвесторов в активах какой-либо компании или предприятия вовсе не означает, что они перестали выпускать продукцию в этой стране для этого народа или на экспорт с пользой для этого же народа. Только в государстве должны быть соответствующие условия и законы, способствующие этим естественным процессам развития, успех которых мало зависит от политиков, тем более таких необразованных, как в Беларуси. Рыночная реформа—лишь на ее основе возможна настоящая плодотворная межгосударственная интеграция сегодня, в том числе и с Россией. Попытка насаждать интеграцию сверху, силовыми приемами, в результате политических игр и различных политических договоров и деклараций—явный возврат к старому, к прежней советской командно-административной системе со всеми вытекающими отсюда последствиями.

В самой же России идея объединения с Белоруссией подхвачена и развивается в условиях, когда, с одной стороны, рыночная реформа настоятельно требует дальнейшего развития и углубления, а с другой, резко усилились никак не стыкующиеся с рынком и новой общественной системой великодержавные тенденции, причем великодержавной болезнью охвачены сегодня не только левые и коммунисты, но и сам Ельцин, и многие вчерашние демократы.

Что только не придумывают великодержавники для оправдания своих устремлений! В опубликованной недавно в «Новом Русском Слове» статье видного московского публициста Вадима Дубнова с ироническим в подтексте названием «Бульба-фри. Кушать подано?» сделана попытка доказать, что Беларусь—это вообще не страна, что она «словно создана для того, чтоб про нее сказали: ее нет». И что ее население—это общность людей, «у которой не получилось стать белорусской нацией». Автор всячески стремится унизить белорусов и их национальное достоинство, даже утверждает вопреки общеизвестным фактам, что в войну погиб в Белоруссии каждый шестой, а не каждый четвертый. По В. Дубнову для граждан этой «несостоявшейся страны»—цитирую дальше—«если больше нельзя быть частью СССР, то желание быть частью России совершенно органично, понятно, закономерно и естественно». Значит, не новый «Союз», а «вхождение» в Россию как часть. Иными словами, аннексия. «Откажемся, сограждане-белорусы, от псевдонационального бело-красно-белого знамени?—спрашивает В. Дубнов и тут же сам отвечает:—Откажемся.» Оставим на совести автора, который, наверно, никогда не интересовался историей, его измышления. Кстати, у него был и предшественник-единомышленник, один из источников, если можно так сказать. Вот что писал Вильгельм Кнорин, видный марксист-ленинец, доктор исторических наук, секретарь ЦК компартии Белоруссии в газете «Звезда» 6 октября 1918 года: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отличают от остальных русских, должны быть изжиты». Коротко и ясно, не правда ли? И безо всякой политической трескотни, которая не смолкает сегодня и в Минске, и в Москве.

День независимости в Республике Беларусь по настоянию президента Лукашенко отмечается теперь почему-то 3 июля, в день освобождения Минска от немецко-фашистских захватчиков. Все смешалось в этом странном объединении, мне кажется, как-то ущемлены оба светлых и важных праздника. После фактического государственного переворота в Минске в конце ноября прошлого года главными политическими советниками получившего абсолютную власть Лукашенко стали люди, стоявшие совсем недавно во главе белорусских коммунистов и БССР до распада Союза. Это прежде всего бывший член Политбюро ЦК КПСС и Первый секретарь ЦК КПБ Анатолий Малофеев, назначенный председателем нового парламента, так называемой Палаты представителей, которых отобрал сам Лукашенко, а также Иван Антонович, бывший зав. отделом культуры в белорусском ЦК и главный идеолог у небезызвестного лидера российских коммунистов Полозкова, ныне назначенный министром иностранных дел Беларуси. Вся творческая интеллигенция республики хорошо знает Ивана Антоновича как верховного и безжалостного цензора, запрещавшего все талантливое, интересное, непохожее и нестандартное в литературе, кино, живописи, на театре. Ярый антисемит в кадровой политике, он организовывал настоящие травли талантливых людей, поощрял всяческие интриги, натравливал деятелей искусства и культуры друг на друга. И он сегодня—во главе внешней политики Беларуси. И, наверно, активно подсказывает бывшему политруку и председателю колхоза в политике внутренней.

Вот и новый праздник появился—2 апреля. Команда Лукашенко назвала его так: День Единения. А по сути это—день аннексии. История повторяется уже как фарс. Символично и то, что 2 апреля этого года большинство российской Госдумы проголосовало против выноса Ленина из мавзолея и его нормального захоронения. Нынешние ленинцы также хотели вернуть старые советские герб, флаг и гимн, но не удалось: не набрали двух третей голосов. Боюсь, что не удалось только пока.

25 марта 1918 года Рада Белорусской Народной Республики провозгласила полную независимость своей страны. За короткий срок до прихода большевиков удалось сделать многое. Был организован территориальный аппарат власти, достигнута полная самостоятельность и поощрение свободного предпринимательства и торговли. Открылись национальные школы, институт, газеты и журналы. Рада БНР была действительно демократическим представительным органом управления, объединившим все группы населения, национальности, сословия и конфессии. После запрета и изгнания Рада БНР продолжала свою деятельность в эмиграции.

Сегодня идеалы Белорусской Народной Республики стали снова как никогда актуальны. Людям, уставшим, измученным постоянным и бесперспективным падением элементарного уровня жизни, хочется хоть какой-то стабильности, как бы ни называлось государство, где им придется жить... А настоящим светлым праздником останется 25 марта—День Независимости. И для белорусов, покинувших в разное время родину, и для тех, кто по-прежнему живет в ней и думает о реальных перспективах лучшей жизни.

*Чыкага*

*Ванкарем* **НИКИФОРОВИЧ**

# Сапраўдны журналіст ніколі не будзе халуём улад

...Бясконцае жаданне ўлад кантраляваць інфармацыйную прастору, фільтраваць думкі, уплываць на свядомасць і розум сваіх суграмадзян. І ўсё дзеля таго, каб гэтыя суграмадзяне зрабілі патрэбны ўладам выбар. Ужо не аднойчы гучала, што ў нашай краіне апошнім часам ідэалагічная апрацоўка ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Інакш чым патлумачыць, што нацыя адмаўляецца ад роднай мовы, што на адно з пытанняў апошняга рэферэндуму — "Ці згодныя вы, каб фінансаванне ўсіх галін улады вялося з бюджэту і галосна?" — людзі, не ўтрымаўшыся на пазіцыях здаровага сэнсу, адказалі: "Не". Сам гэты факт — яшчэ адно сведчанне, што нашая чацвёртая ўлада (амаль цалкам загнаная ў сферу абслугі, заангажаваная, падначаленая выканаўчай уладзе) бліскуча выканала ролю агітарата і прапагандыста.

Гэтыя словы належаць вядомай журналістцы Жане Літвіной. У мінулую суботу, выступаючы з дакладам на першым з'ездзе беларускай асацыяцыі журналістаў, яна з занепакоенасцю гаварыла пра занядбанне на Беларусі ідэі свабоды слова, пра сумнавядомы прынцып фільтравання, скажэння інфармацыі. Супрацьстаяць гэтаму можна, толькі не згубіўшы пачуцця ўласнай годнасці і сумлення. І тут вялікія спадзяванні на незалежныя сродкі масавай інфармацыі, у якіх працуе большасць сяброў Беларускай асацыяцыі журналістаў. Пра першыя крокі гэтай яшчэ зусім маладой прафесійнай арганізацыі і вялася гаворка на з'ездзе, на які ў якасці гасцей былі запрошаны калегі нават з далёкай Амерыкі, дыпламаты шэрагу амбасад, прадстаўнікі ўладных структур.

На з'ездзе прысутнічалі і выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання У.Нісцюк і М.Грыб, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І.Пашкевіч.

**Антон КУПРЫЯНАЎ.**

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
ЧАКАЕ ВАШАЕ АХВЯРЫ
НА
ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!





*Актуальна*

# "Псіхатропная бомба" пад нацыю

*"Наша Слова"*

***Памятаецца, у жнiўнi мiнулага года кiраўнiк нашай дзяржавы прыняў рашэнне выключыць з сiстэмы адукацыi падручнiкi i дапаможнiкi для школ узору 1992—1995 гадоў, бо нейкая засакрэчаная экспертная камiсiя прызнала iх палiтызаванымi i тэндэнцыйнымi. Цяпер давядваемся, што ў макулатуру ўжо спiсваецца школьнымi бiблiятэкамi нават "Буквар" Анатоля Клышкi! А таксама "Беларуская мова" для трэцяга класа, "Гiсторыя Беларусi" для восьмых — дзевятых класаў i iншыя кнiгi. Неўзабаве чакаецца перагляд Закона аб адукацыi, не за гарамi i рэвiзiя самой Канстытуцыi... Пра гэтыя i iншыя набалелыя пытаннi беларускай культуры гутарка са старшым навуковым супрацоўнiкам лабараторыi навучання мовам Нацыянальнага iнстытута адукацыi, намеснiкам старшынi Менскай гарадской рады ТБМ Яўгенам Лаўрэлем.***

**— Яўген Мяфодзевiч, сацыяльна-палiтычная i культурна-моўная сiтуацыя ў краiне складваецца не найлепшым чынам. Юрыдычна мы — незалежная краiна i будуем быццам бы свой беларускi дом, а фактычна iдзем "у светлае мiнулае", паколькi прымаюцца моцныя захады, каб скасаваць заваёвы адраджэнскага руху. Самым страшным мне ўяўляецца паварот да татальнай русiфiкацыi грамадства — праз школы, падручнiкi i сродкi масавай iнфармацыi. Якiя думкi на гэты конт я магу пачуць ад прадстаўнiка фронту педагагiчнай навукi?**

— Сапраўды, дэ-юра — гэта яшчэ не дэ-факта. З устанаўленнем дзяржаўнасцi ў нас шмат што пачало мяняцца. Мы атрымалi шанц для развiцця нацыянальнай культуры, у тым лiку i мовы ў якасцi дзяржаўнай. Аднак шанц адрадзiцца застаецца пакуль што не выкарыстаным, бо, як Вы сказалi, урад усiмi сiламi iмкнецца скасаваць тое, што прынесла з сабою адраджэнне. Сённяшняя сацыяльна-палiтычная сiтуацыя дае падставы сцвярджаць, што з абвяшчэннем незалежнасцi ў нас фактычна нiчога не змянiлася. Палiтыка, якую праводзiў на Беларусi калiсьцi царызм, а затым камунiстычны рэжым, працягваецца. Яе праводзяць шавiнiстычныя колы ў краiне з падачы суседняй краiны. Стаўца мэта не дапусцiць росту нацыянальнай свядомасцi ў беларусаў, паколькi сёння, як паказаў чачэнскi досвед, усё залежыць не ад колькасцi танкаў i ракет, а ад iмкнення народа свабодна жыць i развiвацца, адстойваць свае правы "на пачэсны пасад мiж народамi". А на гэта здольны толькi нацыянальна свядомы чалавек. Абвяшчэнне незалежнасцi ў нечым нават пагоршыла наша становiшча, бо развязала рукi шавiнiстам. Мiжнародная супольнасць не можа ў такiх умовах за нас заступiцца. Што ж да культурна-моўнай сiтуацыi, то скажу наступнае: пэўную частку насельнiцтва Беларусi складаюць нацыянальна свядомыя беларусы, якiя валодаюць расiйскай мовай, але ў мiжасобасных адносiнах карыстаюцца толькi роднай. Другая частка насельнiцтва, самая меншая, штучна адмежавалася ад беларушчыны i размаўляе — таксама свядома — толькi па-расiйску. Найбольшую частку насельнiцтва складаюць людзi, якiя гавораць на "трасянцы". Калi прааналiзуем сiтуацыю далей, то ўбачым, што з усталяваннем ў краiне новага рэжыму пытанням эканомiкi адводзiцца ўсё менш увагi, а ўсе сiлы скiроўваюцца на тое, каб супрацьстаяць росту нацыянальнай самасвядомасцi народа. З гэтай мэтай праводзяцца акцыi супраць нацыянальнай сiмволiкi, супраць беларускай мовы, супраць нацыянальнай школы i, вядома ж, супраць iншадумцаў — "нацыяналiстаў". Палiтыку дэнацыяналiзацыi беларусаў мiнулагоднi рэферэндум толькi аблегчыў. Цяпер ставiцца новая глабальная задача: пераглядзець нашу Канстытуцыю, законы, каб правадзiць далей прарасiйскую шавiнiстычную палiтыку.

**— Як iдзе падрыхтоўка да перагляду Закона аб адукацыi?**

— Вельмi iнтэнсiўна. А чаму? Бо ў дзеючым законе запiсана, што ўся сiстэма адукацыi ў рэспублiцы павiнна ажыццяўляцца на роднай мове. Як стала мне вядома ад намеснiка старшынi Камiсii Вярхоўнага Савета па адукацыi i навуцы, асноўна праекта новай рэдакцыi гэтага закона такая: на якой мове грамадзянiн Беларусi захоча вучыцца, на той хай i вучыцца. Абавязковага навучання на беларускай мове ён не прадугледжвае. А гэта, як кажуць, мы ўжо праходзiлi. Па сутнасцi, такi закон у сённяшнiй сiтуацыi можа расцэньвацца, як замах на правы народа вучыцца на роднай мове.

А зараз хачу пацвердзiць прыкладамi тую аксiёму, што калi няма мовы, то няма i нацыi. Дык якая ж сувязь памiж мовай i самабытнасцю народа? Мы ведаем, што нацыi адрознiваюцца не толькi тым, што назвы адных i тых жа паняццяў i з'яў у iх мовах гучаць па-рознаму, а найперш тым, што розныя народы па-рознаму ўспрымаюць i асэнсоўваюць паняццi i з'явы. I таму мова кожнага народа захоўвае ўсё: i яго маральны досвед, i гiстарычны досвед, i разуменне добрага, кепскага, разумнага, неразумнага. Вось чаму веданне роднай мовы — неабходная ўмова захавання самабытнасцi. I яшчэ адзначу, што толькi на роднай мове чалавек можа сапраўды развiваць свой творчы патэнцыял. Часта можна пачуць такую думку: а якая розніца на якой мове вучыцца? На расiйскай, нiбы, *нават лепш*, бо *лiтаратуры i iнфармацыi* на ёй друкуецца болей. Але розніца вялiкая. Возьмем, напрыклад, словы, якiя абазначаюць адно паняцце: *зязюля i кукушка, журавiнка i клюква*. Пагадзiцеся, што ў беларусаў i расiйцаў яны выклiкаюць розныя асацыяцыi. Зязюля, напрыклад, у беларускай народнай творчасцi звязваецца з паэтычным вобразам маладой дзяўчыны, у той час як у кантэксце, так бы мовiць, мыслення расiйцаў яна асацыiруецца з жанчынай, якая не трымаецца сваёй сям'i, не глядзiць дзяцей i г.д. Возьмем другi прыклад. У расiйцаў *клюква* асацыiруецца з кiслым смакам, таму i гавораць: "Ну, и клюковка", у беларусаў *журавiнка* — з колерам (ружовым). I так па кожнай назве рэчы цi з'явы можна выявiць, якiя асацыяцыi яны выклiкаюць у абодвух народаў. **Пры ўсёй семантычнай блiзкасцi расiйскай i беларускай моў яны, па сутнасцi, з'яўляюцца рознымi вобразнымi сiстэмамi.** Я ўжо не гавару пра ўнутраную форму слоў, аб якой "Наша слова" нярэдка пiсала. Адсюль зразумела, чаму мова — ядро нацыянальнай культуры.

**— А якое значэнне мае для мастака цi музыканта веданне цi няведанне беларускай мовы?**

— Выходзiць, што мае, бо тады ён зусiм па-iншаму ўспрымае свет, што робiць яго больш самабытным. I яшчэ адзiн момант хочацца падкрэслiць. Ад мовы як ядра нацыянальнай культуры залежыць, наколькi гэта культура свабодна кантактуе з iншымi культурамi. Калi ядро моцнае, то культура народа свабодна звязваецца з культурамi, скажам, суседнiх народаў i бярэ ад iх столькi, колькi можа засвоiць. Калi ж ядро слабое, то мова па закону самазахавання iмкнецца да самаiзаляцыi, аб чым сведчыць гiстарычны вопыт — далёкi i блiзкi. Прыкладам, калi звернемся да 60—70-х гадоў, то пабачым, што, нягледзячы на так званыя абмены культурным вопытам i розныя дэкады, наша нацыянальная культура, як шагрэневая скура, усё сцiскалася i самаiзалявалася, таму што сфера яе ўжывання была вельмi звужанай. Увогуле ж наша мова з'яўляецца своеасаблiвым iндыкатарам, паказчыкам нашай дзяржаўнасцi. Як толькi ў жыццi грамадства роля яе павышалася, павышаўся i наш дзяржаўны суверэнiтэт. Заняпад жа мовы сведчыў пра заняпад i дзяржаўнасцi, што мы маем сёння.

**— Наша iнтэлiгенцыя балюча ўспрымае ўсё, што звязана з разбурэннем нацыянальнай сiстэмы адукацыi ў рэспублiцы. Скажыце, а чаму так важна захаваць менавiта нацыянальную школу?**

— Тут трэба высветлiць: што такое нацыянальная школа? Гэта калi школа, перш наперш, працуе на роднай мове. Дарэчы, тады яна з'яўляецца i дэмакратычнай. Школа, праўда, можа працаваць на роднай мове i не быць нацыянальнай па духу. Тым не менш некаторыя навукоўцы даводзяць, што нацыянальнай з'яўляецца нават школа, якая працуе на iншых мовах навучання, абы яна знаходзiлася на Беларусi. Мы гэта прыняць, вядома, не можам. Больш таго, *лiчым, што за ўсе 70 гадоў савецкай улады у нас не было нiводнай нацыянальнай школы.* Стварыць мы iх пачалi ў апошнiя пяць гадоў. Аднак сёння ўжо афiцыйныя колы робяць усё магчымае, каб знiшчыць гэтыя *першыя парасткi*. Дык вось, **нацыянальная школа можа быць тады, калi ў ёй будуць створаны ўмовы для засваення навучэнцамi маральнага, гiстарычнага, этычнага i эстэтычнага вопыту свайго народа.** Гэта значыць, што выхаванцы павiнны расцi нацыянальна свядомымi. Нацыянальная свядомасць — той стрыжань, якi дазваляе чалавеку быць самiм сабой, абстрактна мысліць, прагназаваць будучыню, абапiраючыся на культурны i гiстарычны вопыт свайго народа, i не будзе слепа выконваць загад палiтычных прайдзiсветаў.

**— Якiм павiнен быць, на Ваш погляд, Закон аб адукацыi?**

— Трэба, каб ён, па-першае, быў дэмакратычным. Я не лiчу, што ўсе сярэднiя школы i дашкольныя ўстановы павiнны працаваць на беларускай мове, але вышэйшая i спецыяльная прафесiйныя школы павiнны працаваць толькi на беларускай дзяржаўнай мове. У Амерыцы, напрыклад, вы можаце вучыцца ў любой школе: расiйскай, украiнскай, нямецкай, польскай i г.д., аднак ужо каледжы i унiверсiтэты працуюць там толькi на англiйскай мове, бо рыхтуюць спецыялiстаў для сваёй дзяржавы. I так ва ўсiх краiнах. I ў нас так павiнна быць. Нядаўна я пачуў па радыё каментар чыноўнiка з Мiнiстэрства адукацыi, што ў гэтым навучальным годзе пры паступленнi ў нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы абiтурыенты будуць самi выбiраць, на якой мове iм здаваць экзамены. На гэтых жа ўмовах дазваляецца i грамадзянам Расii паступаць у нашыя ВНУ. Гэтым самым, па сутнасцi, уводзiцца двайное грамадзянства — грамадзяне Расii маюць права на атрыманне бясплатнай вышэйшай адукацыi ў Беларусi. Так што праект новага закона аб адукацыi ўжо дзейнiчае як закон. Якая спешка! Яно i зразумела: трэба ж неяк збiць хвалю студэнцкага патрыятычнага руху, не дапусцiць беларусiзацыi вышэйшай школы, адкрыць новую крынiцу сiлкавання "пятай калоны". Ну а тыя жыхары Беларусi, якiя захочуць паступаць у ВНУ Расii, будуць адгароджваць сябе ад беларускай мовы, бо не сунешся ж з "трасянкай" на конкурс. Па-другое, нашы абiтурыенты, асаблiва вяскоўцы, зараз пастаўлены ў складанае становiшча. Яны горш валодаюць расiйскай мовай, а тыя, хто вырашыць здаваць па-беларуску, сустрэнуцца з выкладчыкамi, якiя або не ведаюць беларускай мовы, або яе не любяць. Будзьце ўпэўнены, яны знойдуць спосаб паняцiць абiтурыенту ацэнку. Гэтай пастановай аб быццам бы свабодным выбары мовы навучання падрэзваюцца асновы нашай нацыi. А калi глыбей браць, то i асновы нашай дзяржаўнасцi. Вось чаму сёння мы ўсе павiнны добра ўсвядомiць: такi закон, калi ён будзе прыняты, дашчэнту разбурыць нацыянальную сiстэму адукацыi. Практычна зараз будзе адна мова ў школе, бо нашто беларуская школа, *калi спецыялiсцяў трэба атрымоўваць* толькi на расiйскай мове. I гэта самае страшнае. Я ўжо не кажу, што культура нацыi будзе вельмi панiжацца, таму што практычна ў чалавека бывае адна рабочая мова.

**— З якога класа, на Вашу думку, у беларускай школе павiнна вывучацца расiйская мова?**

— Калi гаварыць шчыра, то яна павiнна вывучацца факультатыўна. Але на пераходным этапе, думаецца, можна было б даць курс арфаэпii i правапiсу дзесьцi ў 7— 8 класах. А лексiчным багаццем гэтай мовы вучнi будуць авалодваць самастойна, як, дарэчы, яны самастойна авалодваюць i лексiкай роднай мовы. **Уводзiць у школах з першага класа дзве блiзкiя мовы — гэта злачынны эксперымент, пры дапамозе якога мы асуджаем народ на самаразбурэнне. Калi з першага класа даваць дзецям другую блiзкую мову, то вобраз, якi выклiкаецца родным словам, — разбураецца, што адмоўна адбiваецца на развiццi iнтэлекту дзiцяцi.**

Чалавек, а дзiця тым больш, — гэта своеасаблiвы кампутар для вывучэння мовы, але аднай, i ставiць пытанне, што кожны чалавек павiнен змалку вывучаць дзве блiзкiя мовы, вельмi праблематычна. У дзiцяцi яшчэ не сфармiраваўся артыкуляцыйны апарат, а мы ўжо падсоўваем яму другую блiзкую мову. Для вывучэння дзвюх, а то i трох моў павiнны быць спецыялiзаваныя школы, як, прыкладам, ужо iснуюць музычныя, мастацкiя, матэматычныя, куды адбiраюцца дзецi па пэўных тэстах.

**— Важна ж яшчэ мець на ўвазе i выхаванне маральнаэтычных якасцяў асобы.**

— Так. Самая вялiкая бяда, што мы сёння разбураем мараль. Калiсьцi у беларусаў iснавалi паважлiвыя адносiны да людзей, талерантнасць i г.д. Сёння ўсё гэта разбураецца. З аднаго боку, мы крычым пра талерантнасць беларусаў, а з другога — iмкнёмся выбiць з яго гэту ўласцiвасць нацыянальнага характару, змянiць яго самабытнасць, яго псiхалогiю сiлай i выхаваць манкуртаў, якiя здольныя страляць у родную мацi i сваю Бацькаўшчыну. Кажуць, што сталасць нацыi не толькi ў тым, колькi яна вылучыла слынных людзей, а ў тым, як яна шануе памяць пра iх. Наша нацыянальная элiта гэта добра *разумее! За апошнiя пяць гадоў* Беларусi вернуты сотнi забытых iмён, але трэба яшчэ ведаць здраднiкаў i злачынцаў. Вось чаму на "круглым стале", якi адбыўся 14 чэрвеня ў Доме лiтаратараў, было выраўшана завесцi "Белую кнiгу", куды павiнны заносiцца iмёны ўсiх тых, хто прычыняецца да разбурэння нацыянальнай сiстэмы адукацыi, выступае супраць дзяржаўнасцi беларускай мовы. Пара спынiць гэтую мiмiкрыю прыстасавантсва. Мы сёння знаходзiмся ў такiх складаных умовах яшчэ i таму, што не выкрыты канчаткова культ асобы — рэжым адкупiўся некалькiмi дзесяткамi iмёнаў. А гадаванцы тых невядомых пракурораў, суддзяў i катаў б'юць нас, нацыянальна свядомых людзей, па галовах, займаюць начальнiцкiя крэслы i намi кiруюць.

**— Якi Ваш прагноз на будучыню? Што нас чакае?**

— Я ўвогуле аптымiстычна гляджу ў будучыню. За апошнiя пяць гадоў мы столькi даведалiся пра сябе i выдалi столькi лiтаратуры, колькi не выйшла за ўсю тысячагадовую гiсторыю. Таму працэс станаўлення нацыi назад павярнуць нельга. Новыя пакаленнi беларусаў будуць звяртацца да сваёй спадчыны i станавiцца нацыянальна свядомымi. Прывяду за прыклад сябе. У студэнцкiя гады мне трапiла ў рукi кнiжачка У.Iгнатоўскага "Гiсторыя Беларусi", з якой я даведаўся, што мы — вялiкi народ. Яшчэ да Першай сусветнай вайны нас было 14 мiльёнаў. Кнiжачка гэта адыграла ў маiм жыццi паваротную ролю.

Вядома, нацыянальна свядомых людзей у нас не так i многа, але менавiта яны вызначаюць аблiчча нацыi. Што да беларусаў, то гэта хлусня, што яны выракаюцца сваёй мовы. Паглядзiце, калi пачалi адраджаць на пачатку 90-х гадоў беларускую школу, супрацiўлення не было. I сёння яго няма. Аднак любы калгаснiк разумее: навошта вучыцца той мове, якая нiдзе не патрэбна. Мова або запатрабавана ў грамадстве, i тады яе будуць вывучаць усе без выключэння, або не запатрабавана, i тады яе нiхто не будзе вывучаць. **Iдэя нашай незалежнасцi павiнна быць заснавана на iнтэграцыi ўсiх жыхароў рэспублiкi на аснове беларускай мовы i культуры.** Iнакш нас напаткае трагедыя, якая ўжо неадназрозна адбывалася з iншымi народамi, што сышлi з гiстарычнай арэны.

**Распытвала Iрына КРЭНЬ.**

*НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦI ЧЫТАЧОЎ...*

